



# Рэгіянальная газета

26 красавіка 2013 года
№ 17 (939)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




**навіны рэгіёна**

## У рэгіёне гарачую ваду адключаць у маі

**У рэгіёне скончыўся ацяпляльны сезон, і хутка пачнецца прафілактычнае адключэнне гарачай вады.**

**МАЛАДЗЕЧНА.** Адключэнне гарачай вады пачнецца сёлета 15 мая. Як і летась, пройдзе ў два этапы. Ад 15 мая – у зоне міні-ЦЭЦ, ад Віленскай у бок Смаргоні. Ад 28 мая на два тыдні гарачай вады не будзе ў той частцы горада, што знаходзіцца ад вуліцы Віленскай у бок Мінска. Пра гэта паведаміў намеснік дырэктара Маладзечанскіх электрасетак па цеплаэнергіі **Леанід Кузняцоў**.

**ВІЛЕЙКА.** Галоўны інжынер Вілейскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Валянцін Сусла** расказаў, што ў Вілейцы гарачую ваду адключаць, як і ў Маладзечне, 15 мая. Адключэнне вады пройдзе ў адзін этап. А з'явіцца гарачая вада – 29 мая.

**СМАРГОНЬ.** "Гарачую ваду адключаць яшчэ вельмі рана, бо холадна, – кажа начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Смаргонскага райвыканкама **Алена Атцецкая**. – Мы яе адключаем толькі летам, калі праводзім прафілактычныя работы".

Вада ў Смаргоні цалкам не адключаецца. Яна прыкладна тыдзень падаецца па часавым графіку. Напрыклад, ад 6 да 9 гадзін раніцы вада гарачая ёсць, потым знікае, а ад 5 гадзін вечара да 12 ночы зноў з'яўляецца.

**АСТРАВЕЦ.** Як расказаў нашаму выданню галоўны інжынер Астравецкай жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Дзмітры Аксёнін**, адключаць гарачую ваду ў маі не будуць. Гэта плануецца зрабіць летам.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



# У Куранцы за дзень адрамантавалі мост



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Падчас рамонту моста праз рэчку Пэла. Раніцай у сераду, 24 красавіка.

**ВІЛЕЙКА. За сераду, 24 красавіка, чыгуначнікі адрамантавалі 110-гадовы мост праз раку Пэла на ўчастку Маладзечна-Крулеўшчына.**

Як паведамляе намеснік начальніка маладзечанскай дыстанцыі пуці па інжынерных збудаваннях **Віктар Насякайла**, металічны мост пад два пуці пабудавалі ў 1903 годзе. За гэты час мост не разбураўся. У 1967 годзе металічныя канструкцыі замянілі на жалезабетонныя.

Першы цягнік па адрамантаваным мосце праехаў ужо ноччу з серады на чацвер.

На рамонтных працах было задзейнічана каля паўсотні чалавек.

### Як ехалі праз Куранец у сераду

Тых пасажыраў, якія ехалі з Маладзечна на Полацк, Глыбокае ці Крулеўшчыну, высаджвалі ў Вілейцы. Там яны выходзілі з цягніка і перасаджваліся на аўтобус. Іх завозілі да Куранца, дзе пасажыры зноў садзіліся ў цягнік і працягвалі свой рух.

Да Вілейкі кантралёры, правяраючы білеты, нагадвалі, што ў Вілейцы іх чакае перасадка.

А некаторыя пасажыры, якія садзіліся ў Вілейцы, не адразу прымалі за веру, што, каб з вакзала трапіць у цягнік, спачатку трэба сесці ў аўтобус.

### На Вілейшчыне прадоўжаць рамонт мастоў

Сёлета плануюць адрамантаваць яшчэ некалькі чыгуначных мастоў на ўчастках Вілейка-Куранец, Вілейка-Маладзечна, Маладзечна-Гудагай, Маладзечна-Мінск.

У гэтым годзе асабліва актыўна плануюць прыступіць да рамонту чыгуначных мастоў на Вілейшчыне, а ў наступным годзе – на Маладзечаншчыне.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Ранішні цягнік на Полацк. Пасажыры высаджваюцца ў Вілейцы, каб перасесці на аўтобус да Куранца.

СВЯТЫ

# “Рэгіянальнай газеце” – 18 год




Фота Аляксандра ПАРХІ

Настаўніца маладзечанскай СШ №5 Святлана Грыб паказвае вучням 4 “Б” класа артыкул пра “Шталаг-342” у мінулым нумары “Рэгіянальнай газеты”. Самі вучні школы, а таксама ўдзельнікі клуба “Пошук” неаднаразова ставіліся героямі публікацый. Спадарыня Святлана прызнаецца, што ў яе сям'і газету чытаюць ад самага пачатку яе існавання.

**На першай старонцы маладзечанскай “Рэгіянальнай газеты” чытаем загаловак: “Чакаецца ўздым захворванняў на грып, але не эпідэмія”.**

І яно выглядае неяк так … нязвыкла. Бо мы ж вядзём размову пра недзяржаўную газету. А сярод недзяржаўных газет не так ужо мала тых, што напісалі б і пішуць нешта накшталт: “Рэжым давёў народ да эпідэміі грыпу, якая яшчэ не пачалася, хаця сёння-заўтра абавязкова пачнецца”.

Але гэта “Рэгіянальная газета”, на мой погляд, – адна з найбольш прафесійных і прыстойных газет у краіне. Тут пішуць і пра палітыку, і пра эканоміку. Тут не адмаўляюцца ад сенсацый – калі яны ёсць на самой справе. І не прыдумляюць іх дзеля барацьбы за дэмакратыю, калі іх на самой справе няма. Бо ў рэдакцыі ведаюць: кожная “страшылка” адбіваецца на жыцці іхніх суседзяў, знаёмых і блізкіх. А блізкія тут амаль усе, бо за абыякавым словам “чытач” журналістам выразна бачныя постаці тутэйшага люду, з якім прыйдзецца кожны дзень сутыкацца на вуліцах Маладзечна, ці Смаргоні, ці Астраўца…

Астатнія загалоўкі толькі пацвярджаюць такі падыход: “Амкадор-Унікаб” адчыняе новы цэх”, “Галоўны доктар Ашмянскага раёна: Эпідэміі менінгіту ў Ашмянах няма”, “Праезд на прыгарадных цягніках падаражэў на 17 працэнтаў”, “Кіраўнік свінагадоўчага комплексу падазраецца ў крадзяжы амаль ста свіней на суму больш за 200 мільёнаў рублёў”…

То бок, мы маем усе прыкметы сур'ёзнага інфармацыйнага тону: калі падаражэў, дык падаражэў. А калі няма, дык і няма – усё проста.

І так было заўсёды, з першага дня існавання “Рэгіянальнай газеты”, якая выйшла 28 красавіка 1995 года з намерам аб'яднаць інфармацыйную прастору рэгіёна, які ўключае ў сябе чатыры раёны Мінскай вобласці і тры раёны Гродзенскай. Маюцца на ўвазе Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец.

Газета рэгулярна выходзіць кожную пятніцу на 24 старонках і мае сваю абноўленую інтэрнэт-версію – важную крыніцу не толькі інфармацыі, падрыхтаванай журналістамі і яе пазаштатнымі аўтарамі, але і таксама крыніцу рэкламы і масы публікацыі аб'яў з усяго рэгіёна. Аснова палітыкі газеты: **“Мы працуем для людзей, якія з павагай ставяцца да мінулага, з надзеяй глядзяць у будучыню, а сваё сёння будуюць самі”.**

Гартаючы старонкі, бачу матэрыялы па самых розных раздзелах, якія не могуць не прыцягнуць увагу людзей, што сваё жыццё будуюць самі. Напрыклад, раздзел эканомікі змяшчае паведамленні пра тое, як важна, каб арыентавацца тут і сёння: “Змяняюцца ўмовы разліку пры гандлі”, “Квіткі на Вільню падаражэюць на 45%”, “З новага года павышаюцца цэны на сувязь”, “З новага года павысяцца тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі”, “Мінімальны заробак павялічыцца на 400 тысяч з новага года”, “Рыбны кірмаш у Маладзечне, Вілейцы і Валожыне”…

Дарэчы, газета змяшчае не толькі паведамленні, але і каментары: як яно ўсё адаб'ецца на жыцці землякоў? Ніхто не ўпрыгожвае жыццё рэгіёна, але ніхто і не робіць яго горшым, чым ёсць. Можа, толькі такі падыход і можна назваць: гаварыць праўду?

Немагчыма адарвацца ад матэрыялаў па раздзелу “Гісторыя”. Адны толькі загалоўкі прымушаюць прыпыніцца і чытаць: “Як шляхта Каляды спраўляла”, “Касцяневічы. Таямніца забойства сястры Максіма Танка”, “Зніклыя скарбы Напалеона. Таямніца возера Вула (1812-2012) ля Вілейкі”, “Як было “за палякамі”, “Кім быў і ёсць Янка Купала для нашай сям'і”, “Творчасць Наталлі Арсенневай – набытак Беларусі”…

Рэдка хто не дачытае да канца, напрыклад, гісторыю скарбаў Напалеона, выкладзеную спецыяльна для “Рэгіянальнай газеты” кандыдатамі навук Валянцінам Ількевічам і Анатолем Сцебуракам: “Напалеон і асноўныя часці войска напрыканцы лістапада 1812 года праходзілі па Вілейскім павеце праз Стайкі, Ілью, Латыгаль і Селішча (у апошнім населеным пункце ў 2005 годзе было знойдзенае буйнейшае пахаванне французскіх жаўнераў, што стала яшчэ адным сведчаннем трагедыі французскай арміі на дарогах Вілейшчыны). А рэшткі войска праклалі шлях па поўначы Вілейшчыны ў бок Смаргоні праз Даўгінава і Ардзяю. Магчыма, з гэтымі менш прыкметнымі часцямі рухаліся і “скарбы Напалеона”.

А далей пра тое, як шмат хто шукаў тыя скарбы, а адзін са знакамітых старшыняў тутэйшых калгасаў нават спрабаваў асушыць возера Вулу, але памёр, не давёўшы справу да канца. А ўспаміны землякоў пра славутую паэтку Наталлю Арсенневу, Максіма Танка…

Чытаеш і разумееш: гэты край мае сваю непаўторную гісторыю, якой і ганарацца журналісты, і рэдактар.

Калі казаць пра якасць матэрыялаў, дык яны, у большасці, адпавядаюць тэрміну “моцна зробленыя”. Ёсць пэўны, вельмі прафесійны ўзровень якасці, ніжэй за які журналісты не апускаюцца.

І яшчэ адна асаблівасць газеты: яна выдаецца цалкам на роднай мове – мове некалькаванай, сапраўднай, прыгожай! Мове, якой аўтар зайздросціць, сам пішучы пераважна на рускай. І перад тымі, хто піша на ёй, здымае капялюш, бо сам так не можа.

**Анатоль ГУЛЯЕЎ,**
**медыякрытык,**
**“Тут і сёння”,**
**студзень 2013.**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ



***Добры дзень, рэдакцыя “Рэгіянальнай газеты”!***

*Вось ужо тры гады з'яўляюся падпісчыкам Вашай газеты. Заўсёды прыемна атрымліваць чарговы нумар. Не было ні аднаго разу, каб я не атрымала газету.*

*Што прываблівае ў Вашай газеце? Дык гэта своечасовая інфармацыя. Напрыклад, аплата за электраэнергію. Нідзе не было надрукавана, у людзей ужо нейкая паніка: ”Як будзем жыць”? Газета аператыўна і даступнай мовай растлумачыла аплату.*

*Мяне прадаўжае цікавіць гісторыя рэгіёна. Усё падмацоўваецца фотаздымкамі, на якіх чыстыя, светлыя твары людзей. Працавітыя, адукаваныя, акуратныя, і кожны з іх унёс свой уклад у развіццё нашай краіны.*

*Праўда, старонку “здарэнні” не вельмі люблю. Тут мне страшна. Што робіцца з беларусамі?*

*Затое колькі матэрыялаў пра культурнае развіццё рэгіёна. Якія ёсць адораныя людзі!*

*Мая дачка скончыла Маладзечанскі музычны каледж, дэкаратыўна-прыкладное аддзяленне. Працуе цяпер у горадзе Дзісна кіраўніком гуртка у Доме рамёстваў. Нядаўна ў іх праходзіла выстава “Падарожжа ў краіну творчасці”. Кожны выстаўляў свае работы, абараняў іх. Работы дачкі раённая камісія адзначыла як лепшыя.*

*Хочацца сказаць вялікі дзякуй настаўнікам дэкаратыўна-прыкладнога аддзялення музкаледжа **Наталлі Львоўне Чырвонцавай, Лізавеце Львоўне Чырвонцавай, Генадзю Фёдаравічу Селядцу**, а таксама настаўніцы сусветнай мастацкай культуры **Вользе Рыгораўне Корсак**, настаўніцы мовы **Валянціне Іванаўне Селівон** за сумленную працу.*

*Свой багаты досвед змаглі перадаць дачцэ, якая, у сваю чаргу, перадае яго дзецям.*

*Беларусь жывее! Беларусь будзе жыць!*

**З павагай, Людміла Сяргееўна Лаўрыновіч,**
**Мёрскі раён,**
**Віцебская вобласць.**



Фота з асабістага архіва Людмілы ЛАЎРЫНОВІЧ.

Дачка Ганна на выставе.

■ ВОЛЬНЫ ЧАС

# У дзень адкрыцця парку запрацуе "Зігзаг"


Фота Настассі РОЎДЫ.

Хутка запрацуе доўгачаканы атракцыён.

**МАЛАДЗЕЧНА. Парк пачне сваю працу 1 мая а 10 гадзіне.**

Атракцыён "Зігзаг" коштам 300 мільёнаў рублёў, якога чакалі яшчэ ў мінулым сезоне, у гэты дзень пакатае першых адпачывальнікаў, паведаміў начальнік парку культуры і адпачынку імя Перамогі **Аляксандр Фалей**.

Білеты на новы атракцыён будуць каштаваць столькі ж, колькі і на "Лятаючую талерку" – 12 тысяч рублёў. Гэта самыя дарагія атракцыёны. На абодвух можна катацца ад 12 гадоў.

## Бясплатных білетаў сёлета не будзе

– Мы і так ставім вельмі нізкія цэны, – тлумачыць Аляксандр Фалей. – Каб акупіць "Лятаючую талерку" за тэрмін яе эксплуатацыі, 10 год, білеты павінны каштаваць па 20 еўра.

Апоўдні 1 мая каля атракцыёнаў будуць спяваць маладыя выканаўцы. А 17 гадзіне пачнецца вечар адпачынка для тых, хто малады душой.

Парк па суботах, нядзелях і святочных днях будзе працаваць ад 10 да 21 гадзіны. Па серадах, чацвяргах і пятніцах – ад 13 да 20. Панядзелак і аўторак – выхадныя.

Зоя ХРУЦКАЯ,
Аляксандра ПАРАХНЯ.

## Маладзечна і Смаргонь адзначаць юбілейныя даты

**МАЛАДЗЕЧНА. СМАРГОНЬ. Сёлета ў рэгіёне будзе адзначацца адразу некалькі круглых датаў.**

У Маладзечне 7-8 чэрвеня пройдзе традыцыйны Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, трынаццаты па ліку.

– Сёлета мы святкуем дваццацігоддзе фестывальнага руху, – адзначыў начальнік аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Рамановіч**. – Да таго ж у межах нацыянальнага фестывалю пройдзе і рэгіянальны фестываль "Адна зямля", запланаваны ён на 9 чэрвеня. У яго таксама своеасаблівы юбілей: "Адну зямлю" будзем ладзіць 15 раз.

Яшчэ адно свята чакае маладзечанцаў 6 ліпеня. У гэты дзень будзе адзначацца свята горада. Святочныя мерапрыемствы будуць і ў Палацы культуры, і ў амфітэатры. У парку пройдзе вогненнае шоу.

### Юбілей будуць адзначаць і ў Смаргоні

– Нашаму гораду спаўняецца 510 гадоў, – паведаміла метадыст раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці **Тамара Сямянчанка**. – Святкаванне пройдзе 3 ліпеня. Мы і так штогод адзначаем гэтую дату, бо 3 ліпеня – дзяржаўнае свята. Але сёлета будзем рыхтавацца асабліва. Будзе і горад майстроў, і выступленні фальклорных калектываў, і шмат іншых цікавых мерапрыемстваў.

Смаргонскі амфітэатр пачне працаваць у маі. Першая ўрачыстасць у ім запланаваная на 9 мая. Традыцыйна будзе адзначацца Дзень працы: 30 красавіка на Дошцы гонару з'явяцца партрэты новых людзей.

■ СЛУЖБА 101

## У інтэрнаце здарылася сапраўднае ўзгаранне падчас вучэнняў

**МАЛАДЗЕЧНА. Вучэнні праводзілі з-за таго, што роўна месяц таму ў інтэрнаце быў пажар.**

Месяцам раней, 23 сакавіка, тут таксама ўзнік пажар з-за непатушанай цыгарэты, паведаміў намеснік начальніка Маладзечанскага гаррайаддзела МНС **Андрэй Рабец**. Пасля гэтага здарэння былі прызначаныя сённяшнія вучэнні.

У аўторак, 23 красавіка, падчас вучэнняў па супрацьпажарнай бяспецы адбылося сапраўднае ўзгаранне з-за кароткага замыкання.

Узгаранне ліквідавалі самі ўдзельнікі вучэнняў.

Зоя ХРУЦКАЯ.

■ СЕЗОН

## У Ілаве перапрацавалі 60 тон бярозавіку

**МЯДЗЕЛ. На ўнітарным прадпрыемстве "Ілаўскае" на Мядзельшчыне на сярэдзіну тыдня перапрацавалі каля 60 тон бярозавага соку.**

Пастаўляюць яго з Валожынскага, Вілейскага і Бягомльскага лясгасаў.

На прадпрыемстве выпускаюць сок бярозавы з цукрам, з лімонам і цукрам, бярозава-буяковы, бярозава-журавінавы, бярозава-чорнапарэчкавы, і бярозава-чырвонапарэчкавы.

– Летась нарыхтоўвалі малінавы сок, і сёлета распрацавалі рэцэптуру новага віду прадукцыі – соку бярозава-малінавага з цукрам. Будзем яго таксама выпускаць, – паведаміла інжынер па якасці УП "Ілаўскае" **Івона Януковіч**. – Сокі паступяць у продаж пад гандлёвым маркай "Я люблю Ілава".

Алесь ВЫСОЦКІ.

| Курсы валют НБ РБ | 18.04 | 25.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 630,00 | **8 650,00** |
| Еўра | 11 370,00 | **11 230,00** |
| Злоты | 2 769,04 | **2 719,01** |
| Літ | 3 297,54 | **3 262,49** |
| Расійскі рубель | 276,50 | **274,00** |
| Грыўня | 1 060,20 | **1 063,96** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8620/8670 | **8620/8670** |
| Еўра | 11330/11440 | **11200/11270** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 17.04 | 24.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110900 | **116150** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45850 | **42450** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 48000 | **58500** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 24500 | **22950** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **32400** |
| **Селядзец**, 1 кг | 22700 | **20500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9550 | **9900** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9950 | **9300** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10500 | **11000** |
| **Алей** | 15450 | **15200** |
| **Маянэз**, 200 г | 4700 | **5300** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7200** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9900 | **8900** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 3800 | **3500** |
| **Капуста**, 1 кг | 10000 | **7000** |
| **Морква**, 1 кг | 5500 | **7800** |
| **Буракі**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 16500 | **19500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13000 | **18000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 15000 | **22000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 25000 | **18000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 18800 | **18000** |
| **Перац**, 1 кг | 34000 | **33000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 28500 | **30000** |
| **Бананы**, 1 кг | 13000 | **13000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 7500 | **7500** |
| **Грушы**, 1 кг | 15000 | **21000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 75000 | **75000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **40000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 18000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 45000 | **58000** |
| **Бульба**, 5л | 12000 | **10000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **60000** |

СЛУЖБА 101

# Калі і паліць траву, то па правілах

**Агонь уздоўж чыгуначных дарог увесну даўно стаў звыклай з'явай. Між іншым, за вясенняе выпальванне травы можна атрымаць штраф. У якіх выпадках паліць дазваляецца?**



Фота kaliva.ru

Забараняецца выпальваць сухую расліннасць і ржышча.

Сёлета шэраг экалагічных арганізацый разам з Міністэрствам прыроды і аховы навакольнага асяроддзя і Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях ладзяць інфармацыйную кампанію супраць выпальвання травы.

Акрамя грашовых стратаў, гэта нясе небяспеку для здароўя людзей. Разам з травой у агонь трапляе ўсё, што чалавек пакінуў на зямлі. Калі на падпаленай зямлі раней выкарыстоўвалі ўгнаенні, то іх рэшткі таксама пачнуць гарэць.

**Ад гарэння смецця, асабліва пластыкавых бутэлек, утвараецца небяспечны дым. Хімічныя рэчывы, якія ўваходзяць у яго склад, паскараюць развіццё ракавых захворванняў.**

Да таго ж агонь пры выпальванні травы пры неспрыяльным ветры можа лёгка перакінуцца на кусты, дрэвы і будынкі. Могуць загарэцца і падземныя тарфянікі.

У 2011 годзе па ўсёй краіне супрацоўнікі МНС выязджалі на лясныя і тарфяныя пажары 1214 разоў, на пажары, дзе гарэла смецце і бытавыя адходы, – 26 тысяч 223 разы.

### Чаму эколагі выступаюць супраць вясновага выпальвання травы?

1) **У агні гінуць дробныя звяры (асабліва нованароджаныя зайчаняты і вожыкі) і паўзуны, земнаводныя (змеі, жабы). Яны могуць не толькі згарэць, але і задыхнуцца ў густым дыме.**
2) **Агонь знішчае гнёзды і кладкі птушак (жаўрукоў, аўсянак, кнігавак).**
3) **З-за агню бяднее раслінны покрыў. Адмерлыя расліны ствараюць урадлівы слой гумусу, на якім кожны год пачынаюць расці новыя расліны. На выпаленых месцах будзе расці толькі пустазелле.**
4) **Агонь знішчае баговак, жужалак, дажджавых чарвякоў, тых насякомых, якія знішчаюць садовых шкоднікаў і ўдзельнічаюць у аднаўленні глебы.**
5) **З-за выпальвання ўзнікаюць лясныя пажары, якія могуць знішчыць некалькі гектараў лесу.**

### Ці могуць выпальванні быць карыснымі?

Эколагі вылучаюць два віды выпальванняў: ранняя і позняя. Ранняя праходзяць у канцы сакавіка і пачатку красавіка. Пасля іх раслінная разнастайнасць мала змяняецца.

Позняя, якія праходзяць у канцы красавіка і пачатку мая, моцна змяняюць раслінны свет тэрыторыі. Агонь знішчае расліны, якія ўжо пачалі расці. Як паказваюць даследаванні эколагаў, пасля двухгадовых позніх выпальванняў колькасць відаў раслін паменшылася на 45%.

– Для звычайных жыхароў выпальванні трэба адназначна забараніць, – заўважае **Леанід Чумакоў**, супрацоўнік рэспубліканскага экалагічнага цэнтра дзяцей і юнацтва. – Іх могуць праводзіць толькі спецыяльныя службы і па дакладна распрацаваным плане. Падпальваць траву трэба там, дзе гэта сапраўды неабходна. Напрыклад, ля чыгуначных дарог – правядзенне ранняга выпальвання здымае пажаранебяспечнасць гэтых тэрыторый. Якраз такую сітуацыю можна назіраць уздоўж чыгункі Мінск-Маладзечна. Рацыянальныя выпальванні травы за некалькі гадоў садзейнічалі развіццю багатага раслiннага свету. З'явіліся тыя расліны, якія раней тут не назіраліся.

Калі ў вас ёсць пытанні па хімічнай бяспецы, звяртайцеся на "гарачую лінію" кампаніі супраць выпальвання:

**(8017) 237-40-70.**



Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

## МНС нагадвае!

Згодна з Правіламі пажарнай бяспекі, дапушчаецца кантраляванае развядзенне вогнішчаў, у тым ліку для спальвання смецця і адходаў.

Але пляцоўкі павінны быць абнесены мінералізаванай паласой шырынёй не менш за чвэрць метра, пры слабым ветры да пяці м/с на адлегласці не менш за 15 метраў ад будынкаў, 25 метраў ад ляснога масіва, 30 метраў ад скірдаў сена і саломы.

У дварах дамоў можна гатаваць ежу ў спецыяльных прыстасаваннях з выкарыстаннем мангала ці барбекю, але пры слабым ветры. Мінімальная адлегласць ад краю гэтых прыстасаванняў да будынкаў павінна быць не менш за чатыры метры.

Пляцоўкі для прыгатавання ежы і спальвання смецця павінны выбірацца так, каб выключалася магчымасць узнікнення пажару. Побач павінны быць вогнетушыцель або ёмістасць з вадой, а таксама лапата.

Нельга пакідаць пляцоўку для спальвання смецця і прыгатавання ежы без нагляду.

Забараняецца выпальваць сухую расліннасць і ржышча.

Пасля прыгатавання ежы і спальвання смецця ўсё павінна быць патушана, нават каб і тлення не было.

За парушэнні вінаватыя прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці.

Парушальнікі могуць заплаціць штраф ад мільёна да чатырох.

**Марына ЕРМАКОВА, старшы інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага ГРАНС.**

СЛУЖБА 101

# Як паводка прайшлася па рэгіёне

**РЭГІЁН. Сёлета пік паводкі на рэках прыпаў на чацвер, 18 красавіка. Цяпер вада ідзе на спад.**

У рэчцы Нарачанка ў вёсцы Нарач на Вілейшчыне найбольш вады было 19 красавіка.

У Вілейцы на Віліі найбольшы ўзровень вады трымаўся тры дні: з серады па пятніцу. Дарэчы, калі параўнаць з летнім узроўнем, то цяпер ён павысіўся больш чым у тры разы.

Усё з-за таго, што вялікі спад вады быў з Вілейскага вадасховішча. Цяпер жа на вадасховішча падпорны ўзровень вады прыходзіць у норму.

– Магло быць і горш, – кажа **Вячаслаў Лапко**. – Паводка чакалася большая, бо не ўлічваліся начныя замаразкі, якія памяншаюць раставанне і высушваюць глебу. А яны прыйшліся якраз на пік паводкі. Калі б іх не было, то вада паднялася б яшчэ на паўметра вышэй.

Нават асобных выпадкаў падтапленняў на Вілейшчыне няма, дадае намеснік начальніка вілейскага аддзела па надзвычайных здарэннях **Аляксандр Раманоўскі**.

На Маладзечаншчыне вада трымалася з 10 па 14 красавіка.

Тут у МНС звярталіся людзі, у якіх падтапіла прыватныя дамы, двары, скляпы і падвалы.

У самім Маладзечне падтапіла вуліцы Велікодную, Каляндую і праезд Першамайскі.

Вада нашкодзіла і ў вёсках Вязавец, Вярхоўка, Дамашы, Селівонаўка, Рагазы.

Але нікога не перасялялі, не эвакуявалі.

Нават з садовага таварыства "Будаўнік-81" выклікаў было няшмат. Яго падтоплівае штогод, а ў 2010 годзе вада там увогуле паднялася да вокнаў.

Сёлета пераважна выклікалі МНС з-за падтапленняў у дварах.

На Астравеччыне і Ашмяншчыне ўвогуле ўсё спакойна, узровень вады ў рэках – у норме.

З Валожына ў МНС тэлефанавалі два разы. У абодвух выпадках выратавальнікі не спатрэбіліся: людзям па тэлефоне патлумачылі, як змагацца з вадой.

**Настасся РОЎДА.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Эвакуатар расчысціць дарогі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Дзяржаўтаінспекцыя нагадвае гаспадарам транспартных сродкаў, што, згодна з Указам Прэзідэнта Беларусі №36 "Аб некаторых пытаннях прымусовай адбуксіроўкі (эвакуацыі) транспартных сродкаў", будуць праводзіцца спецыялізаваныя рэйды сумесна з прадстаўнікамі СМІ.

Яны будуць накіраваныя на папярэджанне і спыненне фактаў парушэння правілаў спынення і стаянкі транспарту. Асаблівую ўвагу будуць звяртаць на дваровыя тэрыторыі, прыпынкі грамадскага транспарту, "зялёныя зоны", месцы каля дзіцячых пляцовак і ўстаноў адукацыі.

## ДАІ ў цывільным пракантралюе хуткасць

**МІНШЧЫНА.** Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці 23-29 красавіка будзе праводзіць акцыю "Хуткасць".

У гэтыя дні будзе ўзмоцнены нагляд за дарожным рухам. Пры гэтым будуць выкарыстоўвацца сродкі скрытага кантролю з магчымасцю фотафіксацыі.

Будуць працаваць машыны ДАІ ў грамадзянскай афарбоўцы з усталяванымі прыборамі "Арэна" і "Візір".

Нагадваем, што ад ліпеня 2012 года на дарогах Міншчыны ўсталявана каля 30 стацыянарных датчыкаў кантролю хуткасці. Парушальнікаў чакаюць самыя строгія меры пакарання.

## ДАІ сочыць за сельгастранспартам

**МАЛАДЗЕЧНА.** Да 30 красавіка маладзечанская дзяржаўтаінспекцыя праводзіць комплекс мер па прафілактыцы дарожна-транспартных здарэнняў і траўматызму з удзелам транспарту сельскагаспадарчых арганізацый.

Нагадваем, што неабходна абавязкова прытрымлівацца правілаў дарожнага руху, а падчас руху па праезнай частцы ў цемнаце апрануць святлоадбівальныя камізэлькі.

У гэты час узмоцнены нагляд за кіроўцамі і механізатарамі сельскагаспадарчых арганізацый.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# "Опа! Курткі няма! А разам з ёй мабільніка і 400 долараў"

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу, 20 красавіка, кватэру 55-гадовага маладзечанца абакралі, пакуль ён ляжаў на канапе.**

Гаспадар быў дома. Да яго прыйшоў сусед, яны разам выпілі гарбаты, і госць накіраваўся дадому.

Але дзверы зачыніў дрэнна, яны засталіся прыадчыненыя.

Гаспадар жа не звярнуў на гэта ўвагу і пайшоў глядзець тэлевізар. Потым глянуў на фіранкі, а яны закалыхаліся. Мужчына падумаў, што гэта звычайны скразняк.

– А сёмай гадзіне вечара ён выяшаў выкінуць смецце, – распавядае следчы па асабліва важных справах Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Марына Рагінская**. – Прайшоў праз свой вузкі калідор і хацеў апрануць куртку, а тут – опа! Куткі няма! А разам з ёй мабільнага тэлефона і 400 долараў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Папраўка

У мінулым нумары газеты дапушчаная недакладнасць: міліцыя шукае абвінавачанага Міхаіла Пятровіча Шаўлюка.

Рэдакцыя просіць прабачэння ў чытачоў.

■ ПАДАТКОВАЯ ІНСПЕКЦЫЯ ІНФАРМУЕ

# Заплаці падаткі і вучы спакойна

**МАЛАДЗЕЧНА. Падатковая інспекцыя аб'яўляе, што ад другога квартала праводзіцца акцыя “Калі працуеце рэпетытарам, то рабіце гэта легальна!”.**

Падчас акцыі супрацоўнікі інспекцыі будуць выяўляць, колькі абітурыентаў карыстаецца паслугамі рэпетытараў. Гэту лічбу параўнаюць з колькасцю рэпетытараў, якія працуюць легальна.

У гэты час будуць звяртаць увагу органаў Міністэрства адукацыі на дзейнасць фізічных асоб і прадпрымальнікаў, якія аказваюць адукацыйныя паслугі. Інспектары будуць вызначаць, які прыбытак атрымліваюць рэпетытары. У выніку працы інспектары выявяць, над чым трэба працаваць, каб рэпетытары плацілі падаткі.

Паводле заканадаўства, рэпетытарства не адносіцца да прадпрымальніцкай дзейнасці, калі чалавек займаецца ім самастойна і не прыцягвае да працы іншых людзей па дагаворах. У такім выпадку рэгістравацца ў якасці прадпрымальніка не трэба.

Для таго, каб пачаць працу рэпетытарам, трэба толькі паведаміць у мясцовы падатковы орган аб сваім намеры і заплаціць адзіны падатак. Выплачваць яго неабходна штомесяц і толькі за тыя месяцы, калі вы працуеце рэпетытарам. Пры гэтым весці ўлік прыбытку і падаваць справаздачы ў падатковы орган не трэба. Усё проста: за тыя месяцы, калі вы працуеце, вы плаціце падатак. Не працуеце – не плаціце.

**Стаўка адзінага падатку на Маладзечаншчыне – 150 тысяч рублёў.**

Пры гэтым для некаторых прадугледжаны льготы. Зніжэнне адзінай стаўкі падатку на 20% прадугледжана для:

- мужчын, якім споўнілася 60 год, і жанчын, якім споўнілася 55 год,
- інвалідаў
- бацькоў (усынавіцеляў) у шматдзетных сем'ях з трыма і больш дзецьмі да 18 год.

Незаконнае рэпетытарства пагражае парушальніку папярэджаннем. Пры паўторным разе – штрафам.

**Да рэпетытарства адносяцца кансультацыйныя паслугі па асобных вучэбных прадметах і дысцыплінах, адукацыйных галінах і тэмах. У тым ліку падрыхтоўка да цэнтралізаванага тэставання, якую выконваюць праз індывідуальную педагагічную дзейнасць.**

Падатковы орган можа праінфармаваць наконт нелегальнага “бізнесмена” адміністрацыю навучальнай установы. Іх асабовыя дадзеныя могуць быць размешчаныя на афіцыйных сайтах Міністэрства па падатках і зборах і Міністэрства адукацыі.

Паклапаціцеся аб сваёй рэпутацыі. З-за нелегальнага рэпетытарства ваш аўтарытэт можа пахіснуцца. І ніякі прыбытак не дапаможа выправіць сітуацыю.

## Як правільна выбраць рэпетытара

Кожны з бацькоў спадзяецца на дзейсную дапамогу прыватнага настаўніка і не паглыбляецца ў працэс навучання. Аднак трэба быць пільнымі: у сферы рэпетытарства шмат выпадковых людзей і нават шарлатанаў.

Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне выступае за прафесійны падыход да справы. Асноўныя крытэрыі якаснага рэпетытара: легальнасць, наяўнасць кваліфікацыі ў педагога, рабочы кабінет (пакой) з вучэбнымі дапаможнікамі і літаратурай, індывідуальныя заняткі (строга па адным).

Пачынаць падрыхтоўку да ЦТ пажадана з 10-га класа. Аптымальна займацца па паўтары гадзіны двойчы на тыдзень. Калі такой магчымасці няма, то хаця б раз на тыдзень.

Першыя заняткі пробныя, праводзяцца для таго, каб вызначыць узровень ведаў вучня.

Потым складаецца індывідуальны план падрыхтоўкі і даецца прагноз па балах на ЦТ.

Рэгулярна праводзяцца пробныя тэставанні, задаюцца дамашнія заданні, за якія ставяць адзнакі. Бацькі павінны бачыць вынік заняткаў. Таму вядуць дзённік, як у школе.

Не рэкамендуецца планаваць два заняткі з рэпетытарамі па розных прадметах на адзін дзень.

Пасля 19 гадзін заняткі таксама не прызначаюць: у гэты час зніжаецца ўспрымальнасць вучня.

Калі бацькі вырашылі карыстацца паслугамі рэпетытара, то павінны кантраляваць іх працу. Выбіраючы настаўніка, варта ўлічваць досвед працы педагога і водгукі абітурыентаў мінулых гадоў.

Высокі працэнт паступлення ў ВНУ, вядома, найлепшая рэкамендацыя.

**Сяргей КУКЕЛЬ, начальнік Упраўлення кантролю за падаткаабкладаннем індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асоб інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне: 222310, Маладзечна, вуліца Лібава-Роменская. Тэлефон: 8(0176) 77-28-30.**

■ КАМЕНТАР У ТЭМУ

## “Мы адчуваем сваю няўпэўненасць”

Мы папрасілі ананімна пракаментаваць аднаго з рэпетытараў, чаму ён шмат гадоў займаўся рэпетытарствам без рэгістрацыі.

– На маю думку, нельга сказаць, што рэпетытары не рэгіструюцца з-за таго, што не хочуць плаціць падаткі. Насамрэч падатак не такі і высокі. Калі настаўнік не выкладае ў школе і ўвесь свой час можа прысвяціць рэпетытарству, то ён атрымае добры прыбытак і з вылікам падаткаў.

Я ведаю настаўнікаў, якія кінулі асноўную працу ў школе і зарэгістраваліся. Але не кожны згодны на гэта пайсці. Часцей людзі імкнуцца сумяшчаць дзве працы.

Ахвотных зарэгістравацца пужае і бюракратызм: трэба сабраць шмат дакументаў, каб атрымаць дазвол на індывідуальнае выкладанне.

Наша бяда яшчэ і ў тым, што мы не да канца ўяўляем сабе, як працуе рэгістрацыя. Напрыклад, калі я давяла да ЦТ сваіх вучняў і вырашыла кінуць рэпетытарства, што я павінна рабіць? Як скасаваць рэгістрацыю? Ці магчыма гэта ўвогуле? Ці з мяне яшчэ нekaторы час будуць здымаць падаткі? У многіх ёсць прабелы ў прававых ведах. Мы адчуваем сваю няўпэўненасць у гэтай сферы, таму часта вырашаем абысці ўсе “папяровыя” справы.

**Аддзел інфармацыі.**

ЛЕКЦЫ

# Віляйчане далучыліся да тувінскай культуры

**ВІЛЕЙКА. У нядзелю ў горадзе кармілі духаў і праводзілі абрад ачышчэння, гулялі ў косці і слухалі гарлавыя спевы.**

Усё гэта было падчас лекцыі-дэманстрацыі "Традыцыйная культура тувінцаў". Каб яе правесці, з Тувы ў выставачную залу імя Сілівановіча завітала спецыяліст Цэнтра культуры Авюрскага кажууна Чадураа Цюлюш.

"Чадураа" ў перакладзе азначае "чаромха". Яна ў Беларусі ўжо не ў першы раз. Пераадольвае тысячы кіламетраў, каб пазнаёміць з традыцыямі і культурай свайго народа. І нашу краіну пакрысе вывучае.

– Лекцыя доўжылася прыкладна дзве з паловай гадзіны. Падчас яе госця распавядала пра розныя аспекты культуры свайго народа, – расказала навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей.** – Паказала фільм – пра Нацыянальны музей Тувы, традыцыйны культ – шаманства, як яно адраджалася.

Чадураа Цюлюш прывезла з сабой атрыбуты шаманства, традыцыйны музычны інструмент.

– Вельмі спадабаўся яе строй, – дзеліцца Надзея. – Ён мае вялікі сэнс для тувінцаў. Апроч таго, што строй вельмі практычны для качавога ладу жыцця, ён таксама цудоўна аздоблены вышыўкай.

Бадай, найбольш запомніцца слухачам лекцыі абрад ачышчэння. Правялі яго ў дворыку. Выклікаліся праверыць на сабе, ці сапраўды абрад дапамагае ачысціцца ад дрэннай энергіі, двое маладых удзельнікаў сустрэчы.

– Спачатку госця асвячала месца. Потым праходзіла кармленне духаў – карміла Чадураа іх чаем з малаком і соллю. Ачышчэнне праводзіла пры дапамозе ядлоўцу, які спальвала. Гэтым дымам ачышчаюць цела чалавека. Казала, што самая вялікая колькасць адмоўнай энергіі назапашваецца ў далонях і нагах. Агулам абрад ачышчэння заняў паўгадзіны.

Паказвала госця з Тувы віляйчанам, як гуляюць у косці.

– У навагоднюю ноч тувінцы не спяць. Бо ў іх лічыцца, што богі сыходзяць на зямлю і глядзяць, як сябе вядуць людзі. Для таго, каб не заснуць, тувінцы гуляюць у косці, – тлумачыць Надзея Аўдзей. – Косці натуральныя – бараноў. Якім бокам выпадуць, то тую ці іншую жывёлу адзначаюць. І калі шмат разоў выпадае конь, то ты атрымліваеш перамогу.

**– Наведнікаў нашага сайта цікавіла, ці будуць на лекцыі гарлавыя спевы?**

– Былі. А ў дадатак Чадураа праспявала калыханкі і прыпеўкі, каб было магчыма параўнаць нашу і тувінскую манеры выканання прыпевак.

**– Пасля лекцыі ў вас якое ўражанне склалася пра тувінскую культуру?**

– Яна такая цікавая, дзіўная, непаўторная. Мне лекцыя вельмі спадабалася. Думаю, і слухачам яна таксама прыйшлася даспадобы.

Алесь ВЫСОЦКІ.



Фота Надзеі АЎДЗЕЙ.

Чадураа Цюлюш выконвае абрад "кармленне духаў".

ПАДЗЕІ

## Канферэнцыя, прысвечаная Язэпу Драздовічу

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча прайшла навукова-краязнаўчая канферэнцыя "Шляхамі Язэпа Драздовіча".**

Яна была прысвечаная таленавітаму мастаку, празаіку і паэту (1888 – 1954), лёс якога звязаны і з нашым рэгіёнам.

Сярод выступоўцаў былі прафесар-філолаг **Вячаслаў Рагойша**, архівіст **Ганна Запартыка**, даследчык беларускай культуры **Яўген Лецка**, бібліяфіл і ініцыятар мерапрыемства **Міхась Казлоўскі**.

Больш падрабязна аб падзеі чытайце ў наступным нумары "РГ".

Мікола ГАЙДУК.

ВОЛЬНЫ ЧАС

## "Фэст экскурсаводаў" у Маладзечне наведалі 10 чалавек

**МАЛАДЗЕЧНА. "Фэст экскурсаводаў" на мінулых выхадных прайшоў па ўсёй Беларусі. Не абмінуў ён і Маладзечна.**

У горадзе ладзіліся дзве экскурсіі: адна для дзетак 6-8 гадоў, якую праводзіла **Жанна Дудчанка**, і адна для больш дарослых – яе ладзіў **Уладзімір Садоўскі**.

Экскурсія спадара Уладзіміра пад назвай "Архітэктурная спадчына Другой Рэчы Паспалітай у Маладзечне" сабрала толькі восем чалавек. Некаторыя з гістарычных даследаванняў краязнаўцы, на падставе якіх рыхтавалася экскурсія, друкаваліся раней у "Рэгіянальнай газеце": "Гарнізон у Гелянове: горад у горадзе".

Адна з удзельніц падзялілася ўражаннямі.

– Калі я ішла з дачкой на дзіцячую экскурсію, мы крыху спазніліся, – расказала маладзечанка. – Я чакала пабачыць на плошчы натоўп людзей і вельмі здзівілася, што на экскурсію прывёў сваё дзіця толькі адзін мужчына. Я знайшла іх дзякуючы таму, што ведаю, як выглядае спадарыня Жанна. Атрымалася такая вось "камерная" экскурсія.

Як паказала практыка, гісторыя роднага горада ў стотысячным Маладзечне цікавая толькі для дзесяці чалавек.

Аляксандра ПАРАХНЯ.

ФЭСТ

## Што можна наведаць падчас фестывалю "Час жыць"

**МАЛАДЗЕЧНА. У музычным каледжы імя Агінскага 10-12 мая пройдзе фестываль-конкурс "Час жыць".**

Што могуць наведаць маладзечанцы падчас конкурсу-фестывалю:

| | |
|---|---|
| Выстава творчых работ "ЧАЛАВЕК СКРОЗЬ ЧАС" | **10 мая.** На адкрыццё выставы запрашаюцца аўтарытэтныя мастакі, кіраўнікі студыі выяўленчага мастацтва, навучэнцы і ўсе ахвотныя. Перформансы, жывая музыка, стварэнне калектыўнага калажа "Што я вазьму ў будучыню?" |
| Адкрытая дыскусія з удзелам запрошаных экспертаў "ЧАЛАВЕК: ПРАЕКТ БУДУЧАГА" | **10 мая.** Абмеркаванне актуальных пытанняў будучыні чалавека, культуры, уплыву інфармацыі і найноўшых тэхналогій. У дыскусіі бяруць удзел гісторыкі, прадстаўнікі навук пра чалавека, святары, мастакі і пісьменнікі, творчая моладзь. |
| Майстар-класы "ЗРАБІ ЖЫЦЦЁ ПРЫГОЖЫМ!" | **10 мая.** Падтрымка моладзевай творчасці, духоўна-маральнае выхаванне, стварэнне творчых сувязяў. |
| Валанцёрская сустрэча "ЧАЛАВЕК – ЧАЛАВЕКУ" | **10 мая.** Прэзентацыі валанцёрскіх праектаў і дабрачынных ініцыятыў, магчымасць пошуку сэнсу і натхнення ў добрых справах. |
| Начны кінапаказ на музычным падворку | **10 мая.** Сустрэча-гутарка з рэжысёрамі аб магчымасцях сучаснага кіно. Прагляд конкурсных работ, каротказметражных фільмаў. |
| Вялікая конкурсная канцэртная праграма "ЧАС ЖЫЦЬ!" | **11 мая.** Намінацыі "музычная і тэатральная творчасць", "паэзія". |
| Флэшмоб "СУСТРЭЧА З ПРОДКАМІ" | **11 мая.** Можна далучыцца да гісторыі свайго народа, усвядоміць адказнасць за сваю сучаснасць і будучыню, прыняць эстафету веры, культуры і чалавечнасці. |
| Рок-канцэрт | **11 мая.** Бяруць удзел беларускія моладзевыя рок-гурты. |
| Трэнінг "ЖЫЦЬ, КАБ ЖЫЦЬ!", "ПЕРАМОГА ПАСЛЯ БЯДЫ", майстар-клас "ВА ЎНІСОН З ЖЫЦЦЁМ", гутаркі для тых, хто сумняваецца "А ЦІ ЁСЦЬ СЭНС?" і "ВЕРУ-НЕ ВЕРУ" | **12 мая.** Удзельнічаюць псіхолагі, святары. Трэнінгі і гутаркі дапамагаюць растлумачыць маладым людзям сумневы і асабістыя цяжкасці, знайсці спосабы іх пераадолення. |
| Закрыццё фестывалю-конкурсу | **12 мая.** Абмеркаванне вынікаў, узнагароджанне пераможцаў, водгукі, планы на будучыню, музычныя выступленні. |

- Сайдынг, блок-хаус, мантаж. Дах любой складанасці. ІП Шульга В.І. УНП 691402024. Т. Вэлком (8-044) 5528310.*
- **СЕТКА РАБІЦА** (гатовая і пад заказ, з матэрыялу заказчыка). ІП Сарокка. УНП 600066115. Т. (8-029) 3271119, (8-0176) 771119.*
- Устаноўка, зборка, рамонт корпуснай мэблі ў офісах і кватэрах. Даступныя цэны. ПУП "БенаРыка". УНП 691503914. Т. (8-033) 3908204, (8-029) 3876197.*
- **УЦЯПЛЕННЕ ГАРЫШЧАЎ**, мансардаў, фасадаў, міжсценавых пустот. Уцяпляльнік эквата "Грын Палп". ІП Шульга У.І. УНП 691402024. Т. (8-033) 6008046. *
- Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*
- Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*
- **ШКЛО! НАРЗЗКА: АКОННАЕ, УЗОРЫСТАЕ І ЛЮСТЭРКАЎ**. ТАА "ДрэўПрамГандаль". УНП 691288784. Т. МТС (8-029) 5578917, Вэлком (8-029) 6103437.*
- **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння (фігуркі з шарыкаў, мыльныя бурбалкі), выпускныя вечары і іншае. Вядучы на вяселле, карпаратывы, юбілеі. ІП Кановіч І.Е., УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*

## РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Блокі г/с 10 куб.м. Кроквы 10 куб.м. Дошка 10 куб.м. ФБС 25 шт. Т. (8-029) 8774124.*
- Блокі г/с, пліты перакрыцця, ФБС. ЧП "ВолСтрой". УНП 591802229. Т. (8-044) 5500334, (8-029) 8669921.*
- Блокі г/с, ФБС (падмуркавыя блокі, бетон, раствор, піламатэрыялы, цэгла, пліты перакрыцця, любая ф/а, дастаўка. ПП "Звездачот". УНП 691172990. Т. (8-029) 8774124.*
- Вагонка. Т. (8-029) 6954737.*
- Цэгла пячная чырвоная, новая, нядорага, 150 шт. Т. (8-01771) 53376.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Арматура Ш 8,10,12,14 па 3-6 м. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 7737697.*
- Б/піла, новая, магутнасць 1,3 Кв. Т. (8-01771) 38830, (8-029) 9958848.
- Бензакаса, бетонамяшалка, камень 6,5 куб.м. Т. (8-029) 2599940.
- Бензатрымер, 3,8 кВт, Германія, новы, 160 у.а. Т. (8-033) 6034106.*
- Бетонамяшалка,воданагравальнік, помпа 14 куб.м/гадз., бензакаса, труба поліпрапіленавая. Т. (8-029) 2599940.*
- Гідраізаляцыя, 10 трубак. Т. (8-029) 3837697.*
- **МАТАБЛОК** МТЗ, 2013 г.в., рухавік Хонда GX-270, 17700000 руб., дастаўка па раёне бясплатна. Т. (8-029) 3136538.
- **МОТАБЛОК** Угра, 2013 г.в., рухавік Хонда, 6,5 л.с, з валам адбору магутнасці, у камплекце глебафрэза, 8500000 руб. Т. (8-029) 2712477.
- **МАТАБЛОК** Фаварыт, 2013 г.в., 2 перадачы ўперад 1 назад, вал адбора магутнасці, рухавік Хонда, 6,5 л.с., 6300000. Т. (8-029) 3136538.
- **МОТАКУЛЬТЫВАТАР** VW-500, 2 перадачы ўперад і 1 назад, 2013 г.в., рухавік Хонда 6,5 к.с. Т. (8-029) 3136538.
- **МОТАКУЛЬТЫВАТАР** Крот, 2013 г.в. 1 перадача ўперад і 1 назад, рухавік 6,5 к.с. Т. (8-029) 3136538.
- **НАВЯСНОЕ АБСТАЛЯВАННЕ,** новы плуг, барана, акучнікі, касілка ротарная, фрэза. Т. (8-029) 6636538.
- Плуг двухкорпусны, акучнік, прычэп. Т. (8-029) 8754610.
- Раскідвальнік, капалка польская, сеялка сашнікоўая, ачышчальнік збожжа самаробны. Т. (8-029) 9748461.
- Трактар МТЗ-50, пярэдні мост, стартэр, кун (коўш, вілы), усё у выдатным стане, з дакументамі + ёсць усё навясное. Т. (8-029) 5380957 (пасля 18.00).
- Трактар МТЗ-82, рабочы стан, 3100 у.а. Т. (8-029) 9468436.
- Трактар Т-25, добры стан, 5100 у.а. Т. (8-029) 7633753.
- Тэхналагічнае абсталяванне б/у ў добрым стане, цана прымальная, Вілейка. УП "Рамонак". УНП 60381246. Т. (8-01771) 51544, (8-01771) 54996.
- Вугалок, арматура, сетка для сцяжкі, дошка для апалубкі. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-033) 6603068.*

**Бытавая тэхніка**

- Халадзільнік Атлант, б/у, добры стан, нядорага. Т. (8-029) 5821703.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР» - СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Высокая якасць адлюстравання. Гарантыя. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413.Т. (8-029) 3326779.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***
- **КАМП'ЮТАРЫ, НОЎТБУКІ,** нізкія цэны, крэдыт, растэрміноўка. Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 15А (Дом быту). ІП Норка С.П. УНП 690305194. Тэл. (8-029) 7774642.*

- Лепшыя DVB-T прыстаўкі для лічбавага тэлебачання толькі ў нас, самыя нізкія цэны. Тэлефануйце. Т. (8-01771) 38564, (8-033) 3004520. Прыходзьце, г.Вілейка, вул.Талстога, 55. УП "Артыко". Свае 600387099 ад 29.06.2001г.*
- Самсунг GT-S5230, б/у 1 месяц, поўны камплект. Т. (8-029) 8527882.

**МЭБЛЯ**

- Канапа, стол часопісны, стол-кніга, люстра, бра, танна, Маладзечна. Т. (8-029) 1343474.*
- Ложак 2-спальны у добрым стане з матрацам, нядорага. Т. (8-029) 7626614.
- Шафа 2-дзверная, паліца кніжная, канапы, сталы, крэслы- 2 шт., трэльяж, печ металічная, дзверы, ровар, усё б/у. Т. 732552.

**ЖЫВЁЛА, ПТУШКА, ПЧОЛЫ**

- Кабан жывой вагой 120-150 кг. Т. МТС (8-029) 7741839, Вэлком (8-044) 4545859.*
- Кабан, свінка (дамашнія), нядорага, дастаўка, Маладзечна. Т. (8-0176) 709336, 80447503386.*
- Карова дойная, Вілейскі р-н. Т. (8-01771) 75111.
- Карова маладая. Т. МТС 8585698.*
- Карова, Вілейскі р-н. Т. (8-01771) 61191.
- Козачка пародзістая, дорага. Т. (8-044) 4567627.*
- Козачка дойная і казляняты (4 месяцы), нядорага, Вілейка. Т. (8-029) 8725294
- Казляняты зааненскай пароды, Вілейскі р-н. Т. (8-029) 7055633.
- Свінкі свойскія, 30 кг. Кныр белы, буйной пароды, 40 кг, Маладзечна. Т. (8-0176) 734104.
- Маладняк трусоў (парода бельгійскі велікан). Т. (8-029) 7628438.*
- Парасяты, нядорага. Т. (8-029) 8766740.
- Парасяты, свінні. Т. (8-01771) 21222, (8-029) 6597228.
- Свіння жывой вагай па 15000 руб. Т. (8-01797) 38433, (8-029) 1394096.
- Шчанюкі цвергшнаўцэра ад інтэрчэмпіёнаў з дакументамі. Т. 761648, (8-029) 1052146, (8-029) 7682769.*

**ІНШАЕ**

- Бульбу буйную. Т. (8-029) 3080709, (8-029) 7082011.
- Відэакамера Soni, НД 10-DVR231, 12 МП, 8 крат.зум, у эксплуатацыі не была, 1100000 руб. Т. (8-033) 3352254.*
- Воданагравальнік (65л), тэадаліт, асцэлограф. Т. МТС (8-033) 3866420.*
- Вокны, шклопакеты, дрэва фірмы "Забудова", нестандартныя, 185-113, 4 шт., 185-143, 1 шт. Т. МТС (8-029) 5319640.*
- Лодка двухмесная, новая, 10 у.а. Т. (8-033) 6034106.*
- Параварка, новая REDMOND RST-M1101. 850 тыс.бел.руб. Т. (8-029) 2716379.
- Пчоласем'і з вуллямі. Т. (8-029) 3631225, (8-029) 8791461.
- Ровар "Турыст-ХВЗ". Т. (8-029) 8764985.
- Сепаратар малочны. Т. (8-029) 8754610.
- Швейнае абсталяванне: прасавальныя сталы, парагенератары, фурнітура. УНП 500304974. Т. (8-044) 5345290, (8-044) 7484228.

## КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

- Батарэю чыгунную, б/у. Т. (8-029) 8789740.*

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

- Арматуру, вугалок, трубу, сетку, ліст, цехнаніколь. Т. (8-029) 7737697.*
- Вядучы мост, бартавыя, гуму да трактара МТЗ-82, Мінскі р-н. Т. (8-029) 3343895.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- DDR 1, 1 GB, Samsung або Hynix. Т. (8-029) 6550799, slabada@tut.by.*

**Музінструменты**

- Футарал для цэлай скрыпкі. Т. (8-029) 6927353.*

**Жывёлу**

- Каня, авечак, буйную рагатую жывёлу і іншыя віды дамашняй жывёлы, дорага. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ! МАНЕТУ, МЕДАЛЬ, СТАТУЭТКУ. Т. (8-029) 7764214.***
- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*
- **АНТЫКВАРЫЯТ. ДОРАГА!** Карціны, іконы, манеты, рублі СССР, статуэткі СССР, медалі, знакі, ордэны і інш. Т. МТС (8-029) 5586238.*
- **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Бульбу па 1800 руб. з вашай дастаўкай да Мінска (ад 400 кг), альбо па 1400 руб. забяру сам (ад 1 т.). Т. (8-025) 9843927.
- Бульбу, дорага. Т. (8-025) 7455516.
- Бульбу, 2 т., Мінскі р-н. Т. (8-029) 8775982.*
- Балон кіслародны, вуглекіслотны, б/у, Мінскі р-н. Т. (8-029) 2833244.*

## ІНШАЕ

- "Малыш" – дзіцячая камісіёнка, г.Вілейка, вул.Вадап'янава, 23 (2 паверх, над "Парусам"). УНП 691172722. Т. (8-029) 3854965.
- Магазін "Second Hand" па вул.Чапаева, 26 (будынак завода "Зеніт"), прапануе вясенне-летнюю калекцыю адзення і абутку, шырокі выбар, даступныя цэны. ПГУП "Рабкевіч". УНП 691170717.*
- У аўторак, 30 красавіка, на тэрыторыі міні-рынку будзе праходзіць продаж саджанцаў пладова-ягадных і дэкаратыўных раслін ад Дуброўскага гадавальніка "Фруктовы сад" з 9.00 да 15.00. У вёсцы Мацькаўцы Вілейскага р-на продаж будзе з 15.00. ІП Якубенак Н.Д. УНП 391096237. Т. (8-029) 2155165.
- Шукаю спадарожнікаў ў Хмяльніцкі, Беласток, Варшаву, Адэсу, Крым. Т. (8-033) 6344827, (8-029) 9491773.*
- Шукаю спадарожнікаў на рынак у Маскву, Гродна. Т. (8-029) 8654234, (8-029) 1976679.
- Шукаю спадарожнікаў у Беласток. Т. Вэлком 6535627, МТС 5743335.

## ЗНОЙДЗЕНА

- У раёне ЗМК знайшоўся сабака – чорны лабрадор. Т. Вэлком 6989565.

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

- Цясляр-сталяр шукае падпрацоўку: вагонка, блок-хаўс, гіпсакардон, ламінат і шмат іншага. Т. (8-029) 2620228, (8-029) 9382802.*
- Шукаю падпрацоўку: чыстка і афарбоўка шыферу. Т. (8-029) 9382802, (8-029) 2620228.*

## ПАТРАБУЮЦЦА

- Работнікі для працы на хутары на будаўніцтве, рамонт дома ў Валожынскім р-не. Т. 6490888, 6823218.
- Слесар МЗР. Т. 730521.*
- **ЦЫРУЛЬНІК УНІВЕРСАЛ, МАНІКЮРЫСТ,** высокая аплата працы. ПП "Дальміра". УНП 690611766. Т. (8-044) 7831104*
- Швачкі і прасавальшчыца. ЧУП "АсольМода". УНП 190615877. Т. (8-029) 7547189, (8-029) 7612222, (8-029) 7070569.*
- Электрамантажнікі, фрэзероўшчык на вытворчасць у Вілейку. ТАА "Энэргастымул". УНП 691171078. Т. у Мінску (8-017) 3462370.*

АСОБЫ

# Нас было нямнога

## Успаміны Міхася Чарняўскага, якія ніколі не друкаваліся


Фота svaboda.org

Міхась Чарняўскі, археолаг і гісторык, ветэран адраджэнскага руху, наш зямляк.

*Працяг. Пачатак у нумары 10.*

**МЯДЗЕЛ. 20 студзеня не стала Міхася Чарняўскага – гісторыка і археолага, аднаго з айцоў руху за незалежнасць.**

Ён адышоў без пары: яшчэ актыўна выкладаў ва ўнiверсітэце, штолета праводзіў вялікія раскопкі. Анкалагічная хвароба, якую ён, здавалася, перамог, нечакана вярнулася. Прапануем успаміны гісторыка, запісаныя яго студэнтамі.

Яшчэ ж, калі быў малы, Амазонка ў вярхоўях была пункцірам паказаная, Антарктыда амаль уся пункцірам, Сібір Паўночная. Я думаў – каб толькі пасспець, каб не адкрылі да мяне! Вось туды траплю, адкрыю, нанясу на карту лініяй.

Звычайна, калі няма аднагодкаў, няма гульняў, бегання, лажання па садах, гульняў у хованкі. Калі адзін, сам сабе ў сваім свеце, то его запаўняеш нейкімі вобразамі. Памятаю ў пятым класе пачаў першы аповед пісаць. Мяне натхніў мосцік, т.зв. "курыны мосцік". Там як тунэль, лапухі, лісце такое загадкавае. Рэчка там, каменьчыкі блiскучыя. Як падарожжа пад зямлёй.

### Усім быць, усё рабіць

Мне хацелася ўсім быць, усё рабіць. Гэта самы страшэнны мой недахоп.

Я і рысаваў, і вершы пісаў, і адкрыцці нейкія спрабаваў рабіць, збіраў кніжкі нават па археалогіі Амерыкі, Афрыкі, хацеў інкаў капаць, нават пайшоў на курс археалогіі Цэнтральнай Амерыкі, што адкрылі ў Маскве, але не прайшоў па палітычных матывах: быў беспартыйны.

Толькі што падарылі нож з надпісам "Покорителю южных континентов". Згубіў яго хутка, праўда. А за мяжу тады пускалі членаў партыі, і каб быў яшчэ абавязкова сексот.

Аднаму дадзена быць банкірам – я ніколі б не мог стаць, каб мяне застрэлілі, якім-небудзь камерсантам – а такім вось разгільдзяем, летуценнікам. Цяпер ужо не так, а раней едзеш куды-небудзь на аўтобусе – і навяваецца апавяданне, сюжэт. А потым прыязджаеш дахаты – і на хлерy гэта пісаць? Я ж усё гэта пракруціў праз галаву.

Потым я ўлёг маляваць. Даволі шмат друкаваўся ў "Маладосці", у ЛіМе, так уцягнуўся, што на любую рэч гляджу – і бачу сюжэты гумарыстычныя. Да таго дайшоў, што сніў ночу сюжэты.

Але раніцай не памятаў. І тады я ўхітрыўся класці альбом каля ложка і прывучыў сябе імгненна прачынацца. Рабіў пару штрыхоў і засынаў.

А потым – як адрэзала. Цяпер неяк гэта не публікуюць, неяк нямодна. Я першы малюнак паслаў у "Кракадзіл" у 4-м класе. Я быў ідэйны, савецкі, першы піянер у школе. Тады была карэйская вайна. Я намаляваў амерыканца, ён сядзіць, за ім нейкія тыпчыкі, паўднёвыя карэйцы, яны галоў наадразалі вялікую кучу, накідалі. Мне прыйшоў адказ: сюжэт добры, але над тэхнікай трэба працаваць.

А пазней, школьнікам, паслаў апавяданне ў "Маладосць". І мне прыйшоў адказ, што нешта ў ім трэба дапрацаваць. Іван Пташнікаў мне адпісаў. Я і не дапрацоўваў, кінуў так.

### Беларускі кантынент

Быў я ўжо ў дзясятым класе. Пазнаёміўся са мной хлопчык з суседняй вёскі. Ён быў у класе, можа, пятым-шостым. І прынёс мне беларускія кніжкі – у бацькі ці ў дзядзькі ў яго ляжалі. Гэта была хрэстаматыя беларускай літаратуры Гарэцкага і гісторыя беларускай літаратуры Гарэцкага. Асабліва хрэстаматыя.

Я прачытаў сапраўднага Купалу, сапраўднага Коласа, сапраўднага Бядулю, Гаруна, якога ніколі не чуў.

Я прачытаў дзясятак паэтаў, пісьменнікаў, якіх ніколі не чуў. Гэта была такая рэч! Калі раней было нешта стыхійна і Лапіцкі як міф, то гэтыя кніжкі – гэта быў ужо навуковы грунт.

Зусім другая Беларусь адкрылася раптам, якую не ведаў.

Беларусь незалежная. Вольная Беларусь. Мацярык гэты. Гэта, канешне, было для мяне… нават не ведаю, як гэта сказаць…

Калі раней я адчуваў на ўзроўні Мядзела пад сабой грунт беларускі, тут раптам стаў адчуваць увесь кантынент беларускі, дзякуючы кніжкам гэтым.

У Саюзе Беларускіх патрыётаў Глыбоцкага педвучылішча, арганізацыі падпольнай, Бібліяй была "Беларусь учора й сяньня" Найдзюка. Гісторыя Беларусі, якую вучылі ў школах у час акупацыі. Знайшлі на гарышчы, перадавалі як Евангелле з рук у рукі. А што цяпер? Цяпер цэлыя паліцы кніг з беларускай літаратурай, і кожная, як тая, Найдзюка, такога ўзроўню.

Маючы такую макралітаратуру, Беларусь ужо не згіне.

### Археалогія

Як я скончыў школу, прыехалі да нас геолагі маладыя і ім трэба быў работнік. Бацька мой быў брыгадзірам і кажа: "А во, бярыце". Я з імі месяцы два пабадзяўся па Паўночнай Беларусі.

Я шчыры быў да работы – такія шурфы выкопваў, такія вялікія, невярагодныя кар'еры! Пасля ўзялі мяне лабарантам у Інстытут геалогіі Акадэміі навук. Я добра працаваў, канешне.

У экспедыцыі летняй быў з геолагамі ў Сібіры, золата шукалі, медзь… Зэкі там у іх былі рабочымі. Яны ўсе антысавецчыкі былі, першую антысавецкую адукацыю яны зрабілі.

Мне прапаноўвалі на геафак паступаць – казалі, толькі на двойкі не здай, прымем. Але я хацеў быць археолагам.

Яшчэ як вучыўся ў школе, на Мядзельшчыну прыехаў археолаг Мітрафанаў, правёў раскопкі ў нас на Чорнай Гары.

Мяне бацька не пусціў, трэба было пасля школы кароў пасвіць ці на гародзе нейкую работу рабіць. Як яны паехалі, я заклаў шурфік невялічкі і знайшоў наканечнік капʼя. Гэта быў як знак для мяне. Тады я ўжо рабіў там нейкія апісанні гарадзішчаў, курганоў. Яшчэ ў мяне школьныя ёсць палявыя дзённікі. Першы – з дзясятага класа.

Да археалогіі мусіць быць схільнасць – гэта не прышчапляецца. Адзін і хоча нібыта, а паходзіць, вымакне пару разоў, паляжыць з тэмпературай на печы ў бабкі – і ўсё, яго няма ў археалогіі.

### Настаўнікі пілі як коні

Вучыўся на гістфаку, працаваў год у геолагаў. Зарплата малюсенькая.

Добра, што тады ўжо пачыналі будаваць камунізм, і хлеб быў бясплатны ў сталоўках. Дык я браў чай, садзіўся і еў хлеб з чаем.

А тады міністр адукацыі выдаў загад, што завочнікі абавязковa павінны працаваць у школе. Я меў мінскую прапіску, ужо быў мінчанін… Тады мінскую прапіску атрымаць было страшэнна цяжка! Колькі бацька папрацаваў сувязяў, энергii… Адзін чалавек памог, якога бацька ад турмы выратаваў.

Але пайсці ў школу мінскую – тут усё рускае, для мяне гэта ўжо чужое. Я кінуў усё – прапіску, работу, паехаў у школу ў Пількаўшчыну, на радзіму Максіма Танка.

Хутары, лес да гарызонту, цішыня абсалютная… Як там хораша працавалася! Каб яшчэ настаўнікі не пілі як коні…

Нешта спрабаваў я такое, нават хацеў стварыць арганізацыю сярод настаўнікаў… Добра, што ніхто не данёс.

А імпэту ў мяне не хапіла давесці ўсё да ладу. Тым больш, мяне перавялі ў другую школу, і так пачатак гэтай арганізацыі беларускай ляснуў. А ў новай школе ўжо не было такіх… А потым паступіў у аспірантуру… Ну, тут ужо зусім іншае, тут ужо асяроддзе беларускае было.

### Як мы адзін аднаго пазнавалі

Я жыў у аспіранцкім інтэрнаце, але побач быў інтэрнат малодшых навуковых супрацоўнікаў. Там ужо быў Арсень Ліс, фалькларыст наш вядомы. Быў вельмі асцярожны. Кагэбэшнікі пасля казалі на допытах: "Ох, Лис, – к нему нельзя никак подступиться". Мікола Прашковіч яшчэ быў ад Інстытута літаратуры, які потым на Случчыне згарэў у хаце. Патрыятычны хлопец, але яго клявалі. Ён запіў і згарэў. Быў і такі Міхась Шушкевіч, песня "Ты мне вясною прыснілася" – гэта яго словы. Бываў, канешне, Караткевіч Валодзя ў гэтым інтэрнаце.

Я ўжо быў светапоглядна сфарміраваным хлопцам. Як адзін аднаго пазнавалі? Слухалі, хто гаворыць па-беларуску.

Рэдка можна было пачуць, намнога радзей, чым цяпер… Калі пачуў, што незнаёмы сам гаворыць на касе дзе-небудзь, то гэта ўжо як пароль, з ім знаёміліся тады. Я неяк на Мядзел куплю білет, а хлопец купляе на Узду. І бачу ў яго значок – Колас. Тады значкоў было – раз-два… Ленін або што-небудзь такое мускулістае, спартсмен-бягун… Я падыходжу, загаворваю… Потым ён кудысьці прапаў, баюся, можа, нават памёр: моцна хворыя ныркі былі, Клімкоўскі такі, маці настаўніцай была.

Ці ў экспедыцыі дзе заўважалі: калі гаспадары гавораць па-беларуску, кнігі дома ёсць, дзецi беларускамоўныя.

Напрыклад, начаваў у Ярэмічах у хаце ў такога Жука. Яго сын заканчваў якраз школу. Бачу, што бацька – свядомы беларус, і сын беларускамоўны, будзе паступаць у тэатральна-мастацкі інстытут. Даю адрас: будзеш у Мінску – можаш спыніцца ў мяне…

Мы так шукалі. Дзяцей настаўнікаў беларускіх, старых КПЗБўскіх свядомых дзеячаў.

**Запісалі Паўліна КУПРЫСЬ, Рыгор ШКУРЫНАЎ. ("Наша Ніва").**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

**80 гадоў** з часу выдання (1933) у Вільні культурна-грамадскага і літаратурнага часопіса "Беларускі летапіс" (выдаваўся да верасня 1939 г.).

***

**26 красавіка.** 150 гадоў з дня нараджэння Яўстафія Арлоўскага (1863–1913), беларускага гісторыка, краязнаўца, педагога.

***

**27 красавіка.** 60 гадоў таму (1953) выйшаў у свет літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс "Маладосць".

***



**28 красавіка.** 100 гадоў з дня нараджэння Барыса Сцяпанава (1913 – 1987), фізіка, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

***

**85 гадоў** з дня нараджэння Тамары Шымко (1928), спявачкі, народнай артысткі Беларусі.

***

**1 мая.** Свята працы.

***

**100 гадоў** з дня нараджэння Абрама Кроля (1913–1990), беларускага жывапісца. Стварыў шэраг пейзажаў сюжэтна-тэматычных карцін, займаўся мастацкім афармленнем экспазіцый музеяў рэспублікі.

***

**70 гадоў** з дня нараджэння Алеся Крыгі (сапр. Аляксандр Аляксандравіч Асіпенка, 1943 – 2009), беларускага пісьменніка. Аўтар аповесцей "Я вярнуся да цябе, мора", "Паўночны фарватар", "Порт прызначэння", "Чайка над полем" і інш.

***

**35 гадоў** назад (1978) адкрыты Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы (на базе Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута).

***

**90 гадоў** з дня нараджэння Якава Яравога (1923 – 1998), беларускага харавога дырыжора, заслужанага артыста Беларусі.

***

**2 мая.** 120 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Бяссмертнага (1893 – 1955), беларускага скрыпача, дырыжора, педагога, заслужанага артыста Беларусі. Адзін з арганізатараў першай на Беларусі народнай кансерваторыі (1918 год).

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ЭНЕРГІЯ

# Беразінскае – гісторыя альтэрнатыўнай энергетыкі



Так выглядае вытворчы будынак торфабрыкетнага завода "Беразінскі" цяпер.

Фота Уладзіміра САДОЎСКАГА.

**МАЛАДЗЕЧНА Тэма "альтэрнатыўнай" энергетыкі актуальная ва ўсім свеце. Беларусь не выключэнне.**

Сёння ў нас шмат кажуць і пра пераход на мясцовыя віды паліва, энэргазберажэнне і іншае. Да таго ж створаная і ўводзіцца ў дзеянне праграма па энергетычнай бяспецы краіны. Але я не стану засяроджвацца на сучаснасці і прапаную чытачу заглянуць у мінулае, у часы, калі ў "альтэрнатыўнай" энергетыцы на нашай зямлі проста не было альтэрнатывы.

## Усё пачалося з торфу

Гаворка пойдзе пра пасляваенныя гады – канец 40-х і пачатак 50-х. У той час тэрыторыю рэспублікі яшчэ не працінялі іглы трубаправодаў з эфектыўным і танным палівам, а сваёй нафты крытычна не хапала. Таму роля асноўнага энэрганосьбіту ў адбудове пасля вайны эканомікі была адведзеная торфу.

У пачатку 1950-х па ўсёй рэспубліцы адно за адным паўставалі прадпрыемствы торфаздабычы. Сярод якіх і торфазавод каля пасёлка Беразінскае. Гэты пасёлак у Маладзечанскім раёне быў заснаваны ў 1951 годзе, як працоўнае паселішча для рабочых торфазавода. Акрамя жылых дамоў тут былі пабудаваныя карпусы прафесійна-тэхнічнага вучылішча, якое павінна было займацца падрыхтоўкай кадраў для торфаздабываючай галіны прамысловасці. Само торфапрадпрыемства "Беразінскае" пачало працаваць ў студзені 1953 года.

Багатая сыравінай даліна Заходняй Беразіны зрабіла Маладзечаншчыну буйным цэнтрам вытворчасці торфу. Ён актыўна выкарыстоўваўся як паліва для электрастанцый і як угнаенне для сельскай гаспадаркі.

З прыходам у краіну ў сярэдзіне 1960-х нафты і газу з Сібіры, патрэба ў спальванні торфу знікла. Аграрнай гаспадарцы краіны не сталі патрэбныя такія вялікія аб'ёмы торфу, што здабываліся на беларускіх торфазаводах.

Таму многія прадпрыемствы торфаздабычы ў Беларусі былі зачыненыя ці пераведзеныя на іншы від вытворчасці. Так і торфазавод у Беразінскім потым прыпыніў здабычу торфу і перакалючыўся на выпуск дэталяў, запасных частак і тавараў народнага спажывання.

## Што цяпер можна пабачыць у Беразінскім?

Прадпрыемства ААТ "Беразінскае" існуе і сёння, але будынак былога торфазавода стаіць напаўзакінутым. Яго можна пабачыць, калі па трасе Маладзечна-Валожын пад'язджаць да вёскі Літва.

Выкананы ў стылі прамысловага канструктывізму, велічэзны заводскі будынак добра бачны здалёк. Ён знаходзіцца каля лініі чыгункі Маладзечна-Ліда, але калісьці торфазавод меў сваю ўласную чыгуначную сетку.

**Запасы торфу ў Беларусі налічвалі і налічваюць мільярды тон.**

Асноўнай асаблівасцю здабычы торфу з'яўляецца тое, што яна вядзецца адкрытым спосабам. Слой торфу ўтвараецца на паверхні балот і таму пасля асушэння мясцовасці яго можна проста збіраць з зямлі адмысловымі машынамі.

Дастаўка торфу ад радовішчаў звычайна праходзіць з дапамогай чыгункі, але не звычайнай, а спецыяльнай – вузкакалейнай, з шырынёй каляіны ў 750 мм (1520 мм – стандартная). Ад завода ў Беразінскім да торфанарыхтовак ў раёне Беразіны ішла такая самая вузкакалейка. Яе працягласць дасягала 10 км.

Сёння ад старой вузкакалейкі засталіся толькі рэшткі насыпу. Рэйкі і шпалы даўно дэмантаваныя.

Па гэтай чыгунцы хадзілі не толькі грузавыя вагоны, але і пасажырскія цягнікі, дакладней, аўтаматрысы – пасажырскія вагоны, абсталяваныя маторам для самастойнага перамяшчэння па рэйках без лакаматыва. З іх дапамогай работнікі торфазавода дабіраліся да месца здабычы торфу.

Адзін з такіх матарызаваных вагонаў (іх яшчэ называюць "рэйкавымі аўтобусамі") можна пабачыць на ўскрайку тэрыторыі прадпрыемства. Там знаходзіцца і перароблены пад павець пасажырскі вузкакалейны вагон ПВ40.

Такога ж тыпу вагоны выкарыстоўваюцца цяпер на "Дзіцячай чыгунцы" ў Мінску. Гэта ўсё, што засталося ад былога рухомага саставу заводскай чыгункі. На тэрыторыі ж самога торфазавода захаваўся адзін аб'ект вузкакалейнай чыгуначнай інфраструктуры: высыпны тэрмінал з устаноўкай для перакульвання вагонаў з торфам.

Нягледзячы на знешні заняпад і закінутасць, сёння завод не стаіць без справы. Частка памяшканняў галоўнага будынка пераробленая пад цэх прыватнай вытворчасці. На маю думку, торфазавод у Беразінскім быў і застаецца цікавым аб'ектам "альтэрнатыўнай" энергетыкі мінулага, як ніколі актуальнай і на сёння.

**Уладзімір САДОЎСКІ.**

**Больш фота на сайце**




ПАРАДЫ ЭКОЛАГАЎ

# Топ-5 экалагічных парад на кожны дзень

**"Я не кіраўнік экалагічных арганізацый, каб ратаваць прыроду!" – кажуць некаторыя з нас, чытаючы інфармацыю на "зялёную" тэматыку. Але для таго, каб палепшыць стан экалогіі на ўзроўні сваёй сям'і, і не трэба глабальных перамен. Пачаць можна з дробязяў.**

Хіба гэтыя дробязі палепшаць стан экалогіі? Так, адказваюць эколагі. Да таго ж яны дапамогуць зэканоміць сямейны бюджэт. Варта звярнуць увагу на пяць момантаў з жыцця вашай сям'і. У сітуацыі дапамагае разабрацца **Дар'я Чумакова**, супрацоўнік праграмы па ўстойлівым ладзе жыцця Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск).

## Рэжым чакання

Пакідаць электрапрыборы ў рэжыме чакання даўно стала нормай. Пакінуўшы гарэць маленькую чырвоную лямпачку ў тэлевізары, яго можна лёгка ўключыць пры дапамозе пульта, не кранаючыся з месца.

У рэжыме чакання мы пакідаем музычныя цэнтры, відэапрайгравальнікі, ноўтбукі і камп'ютары. Асабліва часта не выключаем офісную тэхніку на працы.

Падвесці вынікі можна, зрабіўшы невялікія падлікі. Так, сучасны тэлевізар "Гарызонт", які штодзённа пакідаюць у рэжыме чакання на некалькі гадзін, у год спажывае 72 кВт/гадзіну. Цяпер плата за 1 кілават у гадзіну са звычайным лічыльнікам складае 382,4 рубля. Такім чынам, проста пастаянна выключаючы тэлевізар, у год можна зэканоміць каля 27 тысяч рублёў. Дадайце да гэтага іншую тэхніку, якая ёсць у вас дома.

Простае выключэнне электрапрыбораў дазволіць зэканоміць і электраэнергію, і грошы.

## Чыстка зубоў

Не кожны задумваецца над тым, колькі вады можа без патрэбы выцечы ў каналізацыю, калі не закрываць кран падчас чысткі зубоў. Нават калі сам працэс займае менш, чым рэкамендавана стаматолагамі тры хвіліны, вады пры ім губляецца нямала.

Падчас аднаго галення ці чысткі зубоў у сярэднім губляецца каля 9 літраў вады!

З улікам таго, што адзін кубаметр вады каштуе 1450 рублёў (без перавышэння нормы ў 140 літраў у дзень на чалавека) можна падлічыць, колькі канкрэтна для вас абыходзіцца штодзённае наведванне ванны.

Парада простая: закрывайце кран на час гэтых працэдур.

## Пластыкавыя пакеты

Пасля кожнага паходу ў краму ў многіх сем'ях з'яўляюцца новыя пластыкавыя пакеты. У некаторых крамах іх нават даюць бясплатна, і тады рэдка хто задумваецца, браць ці не.

– Між іншым, жыццё аднаго пакета можа доўжыцца хвілін пяць, – каментуе Дар'я Чумакова. – А пасля на сметніку ён будзе раскладацца ад 400 да 1000 гадоў.

Цудоўная альтэрнатыва пластыкавым пакетам – палатняныя торбы. Яны не толькі праслужаць даўжэй, але і больш зручныя: торбу можна закінуць на плячо, а не толькі несці ў руках.

## Падзарадныя прылады

Часта можна пабачыць падзарадныя прылады, якія ўключаныя ў разетку. Тэлефон ці ноўтбук пры гэтым даўно зарадзіліся і знаходзяцца ў іншым пакоі. Навошта вымаць падзараднае, калі праз пару гадзін яно зноў можна спатрэбіцца? Такія думкі падводзяць многіх.

Па-першае, пакінутая без прыбора падзарадная прылада небяспечная з пункту погляду пажарнай бяспекі. Па-другое, яна працягвае спажываць электраэнергію. А паколькі прыбор не падключаны, электраэнергія выкідваецца ў паветра. Хоць і на невялікім узроўні, але гэта павялічвае выкід вуглякіслага газу ў паветра.

За гадзіну працы "ўхаластую" падзараднае ад мабільнага тэлефона спажывае каля 6 Ват. У пераліку на грошы старты атрымліваюцца мізэрныя (каля двух рублёў у гадзіну). Але варта памятаць і пра пажарную бяспеку, і пра выкіды вуглякіслага газу.

## Туалетная папера

З сучаснымі прапановамі туалетную паперу ў краме можна выбіраць гадзінамі: яна знойдзецца ў любым колеры і з любым пахам, а таксама з рознымі ўзорамі. Эколагі ж раяць набываць паперу, зробленую з макулатуры.

У суседняй Расіі штогод каля 10 тысяч гектараў лесу ідзе менавіта на выраб туалетнай паперы.

– Невядома, якія віды дрэў і якога ўзросту тут улічваліся, – кажа Дар'я Чумакова. – Але я не чула, каб падобныя падлікі праходзілі ў Беларусі.

Дык ці варта пускаць дрэвы на тое, каб туалетная папера была бялюткай і пахла парфумай для таго, каб пасля выкарыстаць яе па прызначэнні? На гэтае пытанне кожны пакупнік адказвае самастойна.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

 



МУЗЫКА

# Экс-пясняр Андрэй Усанаў: "Больш не хачу быць рабом"

**МАЛАДЗЕЧНА. Андрэй Усанаў – саліст ансамбля "Спадчына", былы саліст ансамбля "Песняры" – расказаў пра тое, што, каб дасягнуць вяршынь, пачынаць трэба з печыва.**

Спяшаючыся на сустрэчу з Андрэем, я ўспамінала, як адбылося маё завочнае знаёмства з ім. Мы з сяброўкай глядзелі тэлевізар, раптам яна ўскрыкнула: "Не пераключай! Дай палюбавацца!" "На каго?" – спыталася я". – "Ды на гэтага маладзенькага, сімпатычнага саліста "Песняроў"!

А потым ён раптоўна знік і з "Песняроў", і з тэлебачання… А пытанні засталіся. Вось я і паспрабавала атрымаць на іх адказы ў самога Андрэя Усанава.

## І хацеў бы пагаварыць па-беларуску, ды няма з кім

**– Андрэй, я заўважыла, што вы на абшарах інтэрнэту вельмі часта дзеліцеся сваімі думкамі менавіта на беларускай мове...**

– Я вельмі люблю беларускую мову і вельмі хачу ёй авалодаць дасканала. А пагаварыць па-беларуску амаль няма з кім. Вы разумееце? Даводзіцца чытаць.

**– Што чытаеце?**

– Класіку. Янка Купала вельмі падабаецца. Захапляюся Максімам Багдановічам. Чалавек так мала пражыў у Беларусі, а такія творы напісаў: "Вераніка", "Слуцкія ткачыхі"…

**– Ці звязаныя вы якнебудзь з Маладзечнам?**

– Так. Я скончыў Маладзечанскі політэхнічны каледж. Маладзечна – гэта маё юнацтва, студэнцкія гады, каханне, дзяўчаты, песні пад гітару…

**– А любімае месца ёсць?**

– Так, Палац культуры, дзе я ўпершыню ўзяў у рукі мікрафон, стаў пераможцам конкурсу "Зоркі Маладзечна". З таго часу і пачалося…

## У "Песнярах" мы адчувалі сябе гастарбайтарамі

**– Раскажыце пра ансамбль "Песняры", як вы сталі яго салістам?**

– "Песнярам" мяне "паказала" рэжысёр ваеннага фестывалю "Зорка" Аксана Камінская, з якой мы і пазнаёміліся на гэтым конкурсе. Яны мяне праслухалі і адразу запрасілі ў калектыў.

**– "Уліліся" ў калектыў адразу?**

– Гэта быў цудоўны калектыў! 2008-2012 гады – росквіт "Песняроў". Тады, у 2008-м, у калектыў прыйшлі цудоўныя людзі, натхнёныя творчасцю! Намі рухала толькі ідэя!

**– А што адбылося пасля? Чаму такі цудоўны калектыў праіснаваў так мала?**

– А што тут гаварыць? (Андрэй адводзіць позірк у акно). Мы па-ранейшаму натхнёныя адной ідэяй, толькі калектыў іншы… (Маўчанне) Разумееце, гэта доўга выспявала, кіраўніцтва ансамбля нас проста не хацела чуць… Калі я пакідаў калектыў, мне Вячаслаў Шарапаў (мастацкі кіраўнік "Песняроў" – "РГ") нават "дзякуй" не сказаў.

**– У адным інтэрв'ю Вячаслаў Шарапаў сказаў, што ў артыста не можа быць прыярытэту матэрыяльных каштоўнасцей. Што вы пра гэта думаеце?**

– Ну вось з гэтай прычыны ў калектыве цяпер маладыя выпускнікі музычнага каледжа, для якіх грошы – гэта не галоўнае.

Андрэй заказвае каву і працягвае…

— У "Песнярах" мы не раз адчувалі сябе быццам гастарбайтарамі. Прыязджалі на канцэрты ў дзіравых джынсах, самі насілі цяжкія сумкі з апаратурай… А побач з нашым аўтобусам спыняўся "Мерседэс" Марка Цішмана (расійскі спявак – "РГ"), і ён увесь такі ў касцюме за пяць тысяч даляраў прыязджаў, каб спець адну песню пад "фанеру", а мы ўжывую спявалі 40 хвілін. Крыўдна ўсё гэта!

**– Я даўно не чула "Песняроў" у новым складзе.**

– А дзіва і не будзе, я вас запэўніваю.

**– А з мулявінскіх "Песняроў" вы з кім-небудзь знаёмыя?**

– А як жа! Працавалі разам з Леанідам Барткевічам, з Анатолем Кашапаравым. Барткевіч – зорка, яго любяць. Хаця смешныя такі. Кажа мне (Андрэй далей расказвае голасам Леаніда Барткевіча): "Андрюша, у вас такой голос, прям как у меня в молодости, и поёте вы так, как я пел в молодости". А Мулявіна, на жаль, я так і не ўбачыў, вось ён легендарным быў чалавекам.

## "Спадчына" – новы калектыў з былых "Песняроў"

**– А ў якім калектыве вы працуеце цяпер?**

– Ансамбль "Спадчына", я б не сказаў, што ён новы. Сабраліся ў ім былыя "Песняры": я, Вячаслаў Ісачанка, Леанід Вяраніч, Сяргей Шкрудзэ і іншыя. Хлопцы сабраліся, каб не губляцца, каб працаваць. У нас сыграны калектыў.



Андрэй Усанаў.

Фота andrei-usanov.ru

**– А песні з рэпертуару "Песняроў" спяваеце?**

– Не, цяпер мы працуем з праграмай "Легендарныя хіты беларускай эстрады". Усе тыя песні, якія складаюць залаты фонд беларускай эстрады, якія ведаюць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Цяпер выступаем у Расіі, хутка плануем тур па Беларусі.

**– А Маладзечна таксама ўбачыць ансамбль "Спадчына"?**

– Так. Думаю, так.

## Я ніколі не буду спяваць дрэнныя песні!

**– Вы неяк гаварылі, што марыце пра "Еўрабачанне". Мары не змяніліся?**

– Я з'ездзіў бы, але гэты конкурс нейкі… незразумелы. Я не разумею, па якіх крытэрыях адбіраюцца фаварыты і пераможцы.

**– А як вы ацэньваеце ўзровень Беларусі ў гэтым конкурсе?**

– Што? Які такі "ўзровень"? (Андрэй глядзіць на мяне вялікімі вачыма). Мы рыхтаваліся на "Еўрабачанне", запісалі песню "Я – ліцвін", можа чулі? Там словы такія:

*Я ліцвін тутэйшы*
*родам.*
*Сіл хапала маладзецкіх*
*Зведаць край, напіцца*
*воды з задняпроўскіх,*
*камянецкіх*
*І пад неба я падняўся*
*ад дзявочага ўздыхання*
*Як вясёлкам накупаўся*
*ў крыніцы слёз кахання.*

Прыгожая песня з прыгожымі словамі. А ў нас за што народ галасуе? "Тры рубля, хоп, хоп, тры рубля…" (Андрэй напявае) – два словы, тры акорды. Я б ніколі не згадзіўся спяваць такія песні!

**– А хто вам здаецца цікавым з беларускіх выканаўцаў? Каго вы б адправілі на "Еўрабачанне"?**

– Я адправіў бы спевака Uzari. Вельмі цікавы ён, мне здаецца. Арыгінальны, а Еўропу трэба здзіўляць.

**– І што, вашых асабістых спроб больш не будзе на "Еўрабачанні"?**

– Не ведаю. Я цяпер спрабую рабіць сольную кар'еру. Неаднойчы запрашалі ў Маскву, але я вельмі пільна адношуся да кантрактаў, не хачу больш быць рабом. Мяне запрасілі ў Кіеў на запіс канцэрта да 9 Мая, там я думаю дамовіцца наконт здымак кліпа на песню "Раскажы". Вось шукаю кампазітараў, каб напісалі для мяне добрыя, лірычныя песні.

**– А чаму толькі лірычныя? Вы, напрыклад, рокерам сябе не бачыце?**

– Не, ніколі не буду лезці ў рок. Рокерам трэба нарадзіцца. Курт Кабейн, Мік Джагер – вось гэта рокеры. А ўсе беларускія выканаўцы року – гэта ракапопс.

**– А самі якую музыку слухаеце?**

За Андрэя адказаў яго мабільнік, які зазваніў песняй гурта "АВВА" "Dancing queen".

Пагаварыўшы па тэлефоне, Андрэй паглядзеў у акно.

– Так вясны хочацца ўжо. А ўвогуле я аптыміст. Хутка ўсё зменіцца… Пойдзем ужо?

**Наталля ТУР.**

Пракаментавац словы Андрэя пра гастарбайтараў мы папрасілі **Валерыя Скаражонка**, былога саліста і дырэктара беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры", які родам з Вілейкі:

– Ну, наконт апаратуры не зусім так. Яе ўсё ж такі цягалі грузчыкі. А што датычыцца сваіх рэчаў, так, іх насілі самі. Не ведаю, кім сябе адчувалі іншыя, але я менавіта гастарбайтарам сябе і адчуваў. Асабліва ў апошні час. Таму цяперашнія "Песняры" – тэма для мяне закрытая. Яны проста для мяне не існуюць.

ТЭАТР

# У Вілейцы стварылі "Звычайны цуд"

**ВІЛЕЙКА. На мінулым тыдні ў Палацы культуры адбылася прэм'ера Вілейскага народнага тэатра – спектакль з элементамі мюзікла "Звычайны цуд" па п'есе Яўгена Шварца.**

Пра тое, як ішла падрыхтоўка, якія водгукі выклікаў спектакль, пагутарылі з рэжысёрам тэатра **Вадзімам Шырочыным.**

**– Чаму вырашылі ставіць менавіта п'есу "Звычайны цуд" – добра вядомую па фільму Марка Захарава?**

– Справа ў тым, што хоць творы і пастаўленыя па адной і той жа п'есе, але зусім розныя. Яшчэ наша пастаноўка адметная тым, што ўсе песні напісаныя ў родных сценах, вы іх больш нідзе не пачуеце. Музыку напісаў вілейскі музыкант і аранжыроўшчык **Юры Касцюкевіч**, тэксты – мае. Вось нядаўна сталічны тэатр музкамедыі паставіў "Звычайны цуд", то там усе песні ўзятыя з фільма Марка Захарава.

**– А не баіцеся, што спектакль будуць параўноўваць з фільмам, а вілейскіх акцёраў – з Аляксандрам Абдулавым, Алегам Янкоўскім, Яўгенам Лявонавым…**

– Вядома, боязь ёсць. Але з віляйчан ніхто не стараўся капіраваць акцёраў з цудоўнага фільма Марка Захарава.

**– Дарэчы, вы прасілі, каб акцёры паглядзелі фільм ці, наадварот, каб не глядзелі?**

– Мне б не хацелася, каб яны глядзелі яго, бо тады нават міжволі нешта капіруеш. Але ж, вядома, гэты фільм бачылі многія.

**– Ці доўга працавалі над спектаклем?**

– На яго пайшло больш за два гады. Такіх спектакляў у нас яшчэ не было: і па даўжыні, і па колькасці занятых акцёраў (чатырнаццаць чалавек, не лічачы масоўку). Пастаянна працавалі, чым бліжэй да прэм'еры, то працу фарсіравалі. Апошнімі днямі да 10-11 гадзін вечара затрымліваліся. Але гэтыя намаганні сябе апраўдалі.

**– Якія водгукі паступілі пасля прэм'еры?**

– Добрыя: мяркую, спектакль спадабаўся. Гледачы віншавалі, дарылі кветкі. Спектакль па працягласці доўгі – дзве гадзіны сорак хвілін, – але казалі, што прайшоў на адным дыханні.

**– Хто ж выконваў галоўныя ролі?**

– Дырэктар Асіпавіцкай школы-сада **Аляксандр Пуцэйка**, супрацоўнікі Палаца культуры **Марына Заяц** і **Алена Саўрук**, супрацоўнік метадычнага цэнтра аддзела культуры **Андрэй Баўтрукевіч**, дырэктар краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**, выкладчыкі гімназіі №2 **Ірына Новік** і **Уладзімір Версан** і іншыя. Адзначу цудоўную харэаграфію. Паставіла танцы харэограф Палаца культуры **Людміла Крывашэя**, яна і адну з роляй выканала. Хачу падзякаваць усім акцёрам. Яны прыходзілі на рэпетыцыі пасля сваёй асноўнай работы, аддавалі свой вольны час працы над п'есай.

**– Прэм'ера адбылася, які далейшы лёс спектакля?**

– Будзем іграць яго ў нас, можа, удасца і ў Маладзечне паказаць. Вядома, будзем і на рэпетыцыях зноўку спектакль "праганяць", каб у любы момант быць гатовымі выйсці на сцэну.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АХОВА ПТУШАК

# Ахвотныя змогуць дапамагчы балотным птушкам

**ВАЛОЖЫН. Акцыя ў падтрымку рэдкіх і знікаючых відаў птушак пройдзе ў пятніцу, 26 красавіка, на балоце Барценіха ў Валожынскім раёне.**

Падчас мерапрыемства адновяць грунтавую дамбу, якая працуе на тэрыторыі балота, і аптымізуюць працу спецыяльных збудаванняў, якія рэгулююць узровень вады, а таксама пасадзяць дрэвы. На месцы ўсталююць інфармацыйны стэнд, які раскажа аб тых рэдкіх птушках, што жывуць на балотах. Акцыю арганізуе Міністэрства прыроды, паведамляе БелТА.



Шэры журавель.

Архіў "РГ".

Барценіху ўжо вярнулі да жыцця пасля меліярацыі. Цяпер важна захаваць месца гнездавання птушак, у першую чаргу – шэрага жураўля, які занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі.

**Аддзел інфармацыі.**



 

ФУТБОЛ

# “Маладзечна” адкрые сезон 4 мая

**МАЛАДЗЕЧНА. Кіраўніцтва клуба “Маладзечна” 19 красавіка сустрэлася з тымі, каму неабыякавы лёс мясцовага футбола.**



Сустрэча футбольных заўзятараў прайшла эмацыйна: быў і смех, і папрокі.

Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Сустрэчу на гарадскім стадыёне ладзілі галоўны трэнер каманды **Дзяніс Мятліцкі**, дырэктар клуба **Аляксандр Любанец** і заснавальнік ФСК “Маладзечна” **Дзмітры Ганчароў**. Некалькі дзясяткаў футбольных заўзятараў прыйшлі са сваімі пытаннямі і прапановамі.

Кіраўніцтва новай каманды адразу звярнулася да прысутных з просьбай: не падзяляць гісторыю маладзечанскага футбола на папярэдні трэнерскі штаб і цяперашні. І запэўніла – новыя людзі прыйшлі ў кіраўніцтва не на сезон і не на два. Планы ў іх доўгатэрміновыя.

Сярод новага кіраўніцтва толькі трэнер Дзяніс Мятліцкі – маладзечанец, да таго ж выхаванец мясцовага футбола. Яго трэнерам быў **Андрэй Найдзіч**. Дзмітры Ганчароў жыве ў Мінску, Аляксандр Любанец – з Мар'інай Горкі. Маладыя людзі прызнаюцца, што за час працы над клубам адчуваюць Маладзечна сваім родным горадам.

– Для нас было важна захаваць гістарычную назву клуба, – падкрэсліў Дзяніс Мятліцкі. – Усе мы цудоўна бачылі, што “Забудова” не прыжылася, і для фанатаў гэта назва была чужой. Паколькі назва “Футбольны клуб “Маладзечна” ўжо была зарэгістраваная, мы цяпер называемся “Футбольна-спартыўны клуб “Маладзечна”.

Каманда захавае і традыцыйныя зялёна-белыя колеры.

### Хто будзе выступаць за каманду

Канкрэтных прозвішчаў на сустрэчы прагучала ўсяго некалькі. Пакуль вядомыя прозвішчы пяці маладзечанскіх футбалістаў, якія жадаюць выступаць за каманду: гэта **Дзмітры Касцюк**, **Сяргей Капцюг**, **Аляксандр Альховік**, **Вадзім Ціткоў** і **Павел Ляпета**.

Па словах Дзяніса Мятліцкага, перамовы з мясцовай футбольнай школай не далі вынікаў.

– Вядома, мы самі зацікаўленыя ў тым, каб за маладзечанскую каманду выступала як мага больш маладзечанцаў, – сказаў трэнер. – Пакуль мы не бачым запалу маладых футбалістаў. На нашу сустрэчу ў мясцовай школе не прыйшло ніводнага футбаліста ва ўзросце 18-22 гадоў. Але мы заўсёды адкрытыя да ініцыятывы мясцовых гульцоў, і калі ў некага з'явіцца жаданне далучыцца – будзем толькі “за”.

У сіле застаецца дамова клуба з Беларускім дзяржаўным універсітэтам фізічнай культуры аб тым, што ўстанова дапаможа з падборам футбалістаў.

Да таго ж універсітэт цяпер дае камандзе базу для трэніровак. Калі стадыён са штучным пакрыццём у Чысці будзе гатовы, клуб “Маладзечна” пераедзе туды.

### Адкуль з'явяцца сродкі

Пытанне аб тым, як будуць вырашацца фінансавыя праблемы, пакуль канчаткова не вырашана.

– Цяпер мы вядзём перамовы з арабскай авіякампаніяй наконт праекта формы, – адзначыў Дзмітры Ганчароў. – Перамовы з мясцовымі заводамі не далі выніку. Атрымалася дамовіцца са старшынёй кіраўніцтва “Беларусбанка”. Пасля таго, як будуць гатовыя неабходныя дакументы, банк выдзеліць каля 200 мільёнаў. Але мы ставім перад сабой мэту самастойна зарабляць грошы. Не хочам хадзіць з працягнутай рукой.

Кіраўніцтва горада дапаможа клубу выплаціць заявачны ўнёсак.

Магчымасць дапамагчы клубу маюць і ўсе ахвотныя. Для гэтага можна набыць абанемент на гульні сезона. Абанементы ўжо надрукаваныя, але наладзіць іх цэнтралізаваны продаж пакуль не атрымалася.

**Чарговая магчымасць набыць абанементы будзе ў пятніцу, 26 красавіка. З 18 да 19 гадзін на гарадскім стадыёне адбудзецца наступная сустрэча кіраўніцтва клуба з усімі ахвотнымі.**

Ад заўзятараў паступіла ідэя адкрыць для клуба банкаўскі рахунак, на які кожны ахвотны зможа пакласці любую суму. А таксама – арганізаваць на тэрыторыі стадыёна гандлёвыя пункты. Ці будуць ідэі рэалізаваныя – пакуль невядома.

### Бліжэйшыя падзеі ў маладзечанскім футболе

Першы тур гульняў Другой лігі ўжо складзены. Ужо вядома, што “Маладзечна” пачне сезон з дамашняга матча, які пройдзе 4 мая. Першым сапернікам стане каманда “Гомельчыгунтранс”, адзін з лідараў мінулагодняга чэмпіяната.

– Мы не ставім перад камандай ніякіх невераг одных задач, – звярнуў увагу Дзяніс Мятліцкі. – Вядома, калі пару тыдняў таму не было нават упэўненасці, што каманда будзе існаваць, цяпер было б недарэчна ставіць на мэту выхад у Першую лігу. Перш-наперш трэба захаваць каманду і вярнуць заўзятараў на трыбуны.

Сёлета ў клуба з'явіцца і ўласны сайт. Цягам апошніх 10-і гадоў у каманды не было сваёй старонкі ў інтэрнэце. Як паведаміў заснавальнік клуба Дзмітры Ганчароў, палова працы над ім ужо завяршылася. Дакладныя тэрміны старту сайта пакуль невядомыя.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

НАВІНЫ СПОРТУ

## Вілейскія баскетбалісткі – трэція ў вобласці

**ВІЛЕЙКА. 18-20 красавіка ў Барысаве праходзілі паўфінальныя і фінальныя спаборніцтвы па баскетболе.**

Спаборнічалі дзяўчаты ў рамках спартакіяды вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі Мінскай вобласці. У паўфінал выйшлі 8 камандаў.

– У першы дзень каманда Вілейскага раёна гуляла з моцным сапернікам – камандай Барысаўскага раёна і саступіла гаспадарам, – кажа метадыст раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Людміла Арлоўская**. – У другі дзень дзяўчаты змагаліся з камандамі Мінскага і Старадарожскага раёнаў. Перамога прынесла пуцёўку ў фінал. У фінале нашы баскетбалісткі гулялі з камандамі з Салігорскага і Дзяржынскага раёнаў. У гульні з Салігорскім раёнам крыху не хапіла дакладнасці кідкоў. Перад гульнёй з Дзяржынскім дзяўчаты сабраліся і атрымалі ўпэўненую перамогу, што прынесла Вілейскаму раёну трэцяе месца.

У склад каманды Вілейскага раёна ўвайшлі **Алеся Духоўнік** (капітан), **Кацярына Седзяка**, **Кацярына Радзевіч** – вучні сярэдняй школы №3 Вілейкі, **Дыяна Кукушкіна**, **Ксенія Броўка** (СШ №1 Вілейкі), **Валянціна Усціновіч**, **Галіна Васінкевіч**, **Анастасія Варайка** з Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вызначылі лепшых фехтавальшчыкаў раёна

**МАЛАДЗЕЧНА. Адкрытае першынство сярод моладзі 1999-2000 гадоў нараджэння праходзіла з 19 па 21 красавіка.**

Першае месца ў камандным заліку і сярод дзяўчат, і сярод юнакоў узялі спартсмены з самога Маладзечна. У асабовых заліках лепшымі сталі **Максім Пінчук** і **Наталля Космач**. Другое месца ў **Надзеі Хаменка**, трэцяе падзялілі **Сяргей Лук'янец** і **Вячаслаў Лук'янцоў**.

**Аддзел інфармацыі.**

## “Смаргонь” распачала сезон у Першай лізе

**СМАРГОНЬ. Гульні Першай лігі стартавалі 20 красавіка. Першым сапернікам са Смаргоні стала “Гарадзея”. Матч прайшоў на выездзе. “Смаргонь” пацярпела паражэнне з лікам 1:0.**

Наступным матчам каманда адкрые футбольны сезон у родным горадзе. Адбудзецца гэта 27 красавіка.

### Каляндар гульняў футбольнага клуба “Смаргонь” на 2013 год

(тлустым выдзеленыя дамашнія матчы)

| № тура | Дата матча | Сапернік |
|---|---|---|
| 1. | 20 красавіка | “Гарадзея” |
| **2.** | **27 красавіка** | **“Слонім”** |
| 3. | 4 мая | СКВІЧ (Мінск) |
| **4.** | **11 мая** | **“Смалявічы”** |
| 5. | 18 мая | “Віцебск” |
| **6.** | **24 мая** | **“Хімік” (Светлагорск)** |
| 7. | 1 чэрвеня | “Ведрыч-97” (Рэчыца) |
| **8.** | **8 чэрвеня** | **“Слуцк”** |
| 9. | 16 чэрвеня | “Хваля” (Пінск) |
| **10.** | **22 чэрвеня** | **“Полацк”** |
| 11. | 29 чэрвеня | Іслач (Мінскі раён) |
| **12.** | **6 ліпеня** | **“Граніт” (Мікашэвічы)** |
| 13. | 13 ліпеня | “Ліда” |
| 14. | 20 ліпеня | “Мінск-2” |
| **15.** | **3 жніўня** | **“Бяроза-2010”** |
| **16.** | **17 жніўня** | **“Гарадзея”** |
| 17. | 31 жніўня | “Слонім” |
| **18.** | **7 верасня** | **СКВІЧ (Мінск)** |
| 19. | 11 верасня | “Смалявічы” |
| **20.** | **15 верасня** | **“Віцебск”** |
| 21. | 21 верасня | “Хімік” (Светлагорск) |
| **22.** | **28 верасня** | **“Ведрыч-97” (Рэчыца)** |
| 23. | 5 кастрычніка | “Слуцк” |
| **24.** | **12 кастрычніка** | **“Хваля” (Пінск)** |
| 25. | 19 кастрычніка | “Полацк” |
| **26.** | **26 кастрычніка** | **Іслач (Мінскі раён)** |
| 27. | 2 лістапада | “Граніт” (Мікашэвічы) |
| **28.** | **9 лістапада** | **“Слуцк”** |
| **29.** | **16 лістапада** | **“Мінск-2”** |
| 30. | 23 лістапада | “Бяроза-2010” |

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

НАВІНЫ

## У Вілейцы спаборнічалі плыўцы з Міншчыны

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 20 красавіка, у цэнтры фізкультурна-аздараўленчай работы “Сатурн” прайшоў 9 этап адкрытага першынства Мінскай вобласці «Кубак надзей». У ім удзельнічалі 12 камандаў з Вілейкі, Маладзечна, Барысава, Слуцка, Мінска, Полацка, Салігорска, паведаміў дырэктар СДЮШАР Вілейскага райвыканкама **Сяргей Гатаулін**.

Сярод прадстаўнікоў нашага рэгіёна лепшыя вынікі паказалі **Ксенія Чайка** з Маладзечна, якая была першай на дыстанцыі 100 метраў брасам сярод дзяўчат сёмага класа і старэйшых. А сярод дзяўчат шостага класа на гэтай жа дыстанцыі другое месца заняла **Лізавета Шчарбакова** з Вілейкі.

## Прымаем чэмпіянат Беларусі па боксе

**МАЛАДЗЕЧНА.** Усебеларускія спаборніцтвы аб'ядноўваюць баксёраў з усёй краіны. Чэмпіянат пройдзе з 23 па 27 красавіка ў спартыўнай зале ДЮСШ №1 (вул. Ясінскага, 21).

Змагацца за званне чэмпіёна Беларусі будуць і юнакі, і дзяўчаты. У горад прыедзе больш за 100 спартсменаў. Будзе сярод іх і наш зямляк – чэмпіён Еўропы **Дзмітры Асанаў**.

Фінальныя гульні пройдуць 27 красавіка а 11-й гадзіне.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРЭННІ

# Турыст-экстрэмал атруціўся коранем цыкуты

**МЯДЗЕЛ. Супрацоўнік МНС, 31-гадовы Міхаіл Шарамет захапляўся турызмам, выжываннем у дзікіх умовах.**

Сябры Міхаіла Шарамета расказалі, што прычынай ягонай смерці стала атручэнне раслінай цыкутай падчас паходу па Нарачанскіх азёрах.

Міхаіл быў заўзяты турыст. На гэты раз у складзе турыстычнай групы з сямі чалавек ён быў у байдарачным паходзе па Нарачанскіх азёрах.

Ад юнацтва Шарамет захапляўся вандроўкамі, удзельнічаў у спартыўна-патрыятычных арганізацыях моладзі. Яго цікавіла экстрэмальнае выжыванне, гэтаму ён вучыў і моладзь у паходах.

Падчас стаянкі Шарамет еў лісцікі й карэньчыкі. Імаверна, ён зблытаў калівы цыкуты з пажыўнай раслінай сямейства парасонавых – сніткай.

У Мядзельскім РАУС "Нашай Ніве" пацвердзілі, што выпадак атручэння цыкутай быў зафіксаваны.

У Міхаіла Шарамета засталіся жонка і чатырохгадовы сын Алесь.

Працаваў Шарамет у Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях.

Па-беларуску цыкуту ядавітую называюць яшчэ "віхаг шалей".

Гэта надзвычай атрутная расліна, якая шырока распаўсюджаная амаль ва ўсім свеце. Таксічнымі з'яўляюцца ўсе часткі расліны, але найбольшая канцэнтрацыя яду цыкутаксіну назіраецца ў каранях. Дадатковую небяспеку стварае тое, што цыкута мае прыемны пах морквы, а атрутныя карані на смак нагадваюць бручку ці рэдзьку.

Згодна з легендай, лічылася, што грэчаскі філосаф Сакрат быў пакараны прыняццем соку цыкуты.

Супраць яе няма процiяддзя, расказвае старшы навуковы супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі НАН Беларусі **Аркадзь Скуратовіч:**

– У Беларусі ёсць дзве смяротныя расліны – гэта цыкута і балігалоў. Дзейнічаюць яны вельмі падобна, паражаюць цэнтральную нервовую сістэму. Расце цыкута ля вады: на рэках, балотах, ручаях. Яна ўся атрутная: і лісце, і карані. Па каранях яе і адрозніваюць. У яе вельмі вялікае, з кулак, карнявішча. Калі разрэзаць, то там будзе як 5-7 асобных пустых камер. А так яна вельмі мала адрозніваецца ад іншых раслін сямейства парасонавых. Ёсць іншыя атрутныя расліны, але яны выклікаюць толькі галаўны боль, дыярэю, а тут дастаткова з'есці два-тры лісточкі, каб загінуць.

**Кірыла ХІЛЬКО, Зміцер ПАНКАВЕЦ.**
**Паводле "Нашай нівы".**


Фота plantarium.ru

Так выглядае цыкута – надзвычай атрутная расліна – падчас цвіцення.

АКЦЫІ

## Запрашаюць да ўдзелу ў талацэ ў Стайках

**ВІЛЕЙКА. У суботу, 27 красавіка, у вёсцы Стайкі адбудзецца суботнік.**

Вілейская суполка "Таварыства аховы помнікаў" запрашае да ўдзелу, паведаміў старшыня суполкі **Дзяніс Канецкі**. Кожны можа спрычыніцца і дапамагчы захаваць тое, што засталося ад сядзібы.

Пачатак а 10 гадзіне.

Гасцей пасля суботніка чакае пачастунак і выступленне дудароў, якіх запрасіла **Аксана Волкава**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ФОРУМЫ

## Мядзяльчане вызначыліся на "Star show"

**МЯДЗЕЛ. У Мінску з 19 па 22 красавіка прайшоў другі міжнародны форум-конкурс дзіцяча-юнацкай творчасці "Star show".**

– На ім было прадстаўлена шмат відаў мастацтва: вакал, інструментальнае выкананне, харэаграфія, мастацкі накірунак, – расказвае дырэктар Мядзельскай дзіцячай школы мастацтваў **Алена Касарэўская**. – Удзельнічалі дзеці з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Эстоніі, Польшчы і Македоніі.

У форуме вызначыліся юныя мядзяльчане. У намінацыі "Эстрадны ансамбль" квартэт дзіцячай школы мастацтваў "Агеньчыкі" стаў лаўрэатам трэцяй ступені, а дуэт "NiKi" – дыпламантам першай ступені.

У складзе дуэта спяваюць **Аляксандр Нікіценка і Мікіта Сямітка** (на падтанцоўцы была **Ганна Паршута**). Удзельнікі "Агеньчыкаў" – два гэтыя хлопцы, а таксама **Фрыда Савіцкая** і **Каця Ардынец**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | 7 | | |
| 7 | 3 | 1 | | | 9 | 5 | 4 | |
| 9 | | | | | 3 | 2 | | |
| | | 4 | | | 8 | | | |
| 5 | | | | | | | | 8 |
| | | | 6 | | | 1 | | |
| | | 8 | 3 | | | | | 5 |
| | 1 | 7 | 8 | | | 4 | 9 | 2 |
| | | 9 | | | 4 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Біяграфічная драма **"Легенда №17"** (Расія, 2013, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26, 27 красавіка – у 18.00, 21.00
28 красавіка – у 15.00, 21.00
29, 30 красавіка – у 21.00
1, 2 мая – у 16.00, 21.00
Кошт білета – 20 000 рублёў (дзённы), 30 000 рублёў (вячэрні).

Фантастычныя прыгоды **"Джэк – заваёўнік веліканаў"** 3D (ЗША, 2013 год, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
27 красавіка, 1 мая – у 13.30
Кошт білета –35 000 рублёў (дзённы).

Анімацыйныя прыгоды **"Рыф"** 3D (Паўднёвая Карэя, ЗША, 2012, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26, 27 красавіка – у 16.00
28 красавіка – у 13.00, 18.00
29 красавіка–2 мая – у 19.00
Кошт білета –25 000

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма **"Гішпанец"** (Расія, 2012, для гледачоў, старэйшых за 16 год)
26 красавіка – у 17.30, 19.30, 21.30
27, 28, 30 красавіка, 1-2 мая - у 19.30, 21.30
29 красавіка – у 21.30
Кошт білета –25 000 рублёў.

Прыгоды "Том Соер" (Германія, без узроставых абмежаванняў)
27 красавіка, 1 мая – у 13.00, 15.30
28 красавіка – у 14.00, 16.30
Кошт білета – 15 000

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Страшнім Гам"**
28 красавіка – у 12.00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ГАРАСКОП
**(26 КРАСАВІКА-2 МАЯ)**


**Авен**. Нарэшце вы дачакаліся перыяду фінансавага поспеху. Такога ўжо даўно не было. Ёсць чым ганарыцца.


**Цялец**. Найбольш важнай стане матэрыяльная сфера жыцця. Вы будзеце шукаць новыя метады абагачэння. Магчыма шмат сустрэч, узнаўленне старых сувязяў, і ўсё для таго, каб стаць больш упэўненымі ў заўтрашнім дні.


**Блізняты**. Ключом для разумення ўласнай асобы ў гэты час будзе ваш партнёр, адносіны з якім могуць стаць вельмі глыбокімі.


**Рак.** Вы атрымаеце ўласнае шчасце, нават калі яно ёсць і новае вы не заказвалі. Каханне вам забяспечанае. А яшчэ нядрэнна было б перагледзець мэтазгоднасць намечаных укладанняў і сродкаў, прапілічыць магчымы прыбытак і верагодныя расходы.


**Леў**. Вам захочацца шукаць пераменаў і прыгодаў. Вы стаміліся быць здабытчыкам і хочаце свабоды. У маі переварочваецца ўсё пачуцці, так што вас чакаюць радыкальныя перамены на любоўным фронце.


**Дзевы**. Вы можаце разлічваць на далёкія падарожжы, падтрымку ўплывовых людзей і выгады ад супрацоўніцтва з замяжоўцамі.


**Шалі.** Вы можаце паспяхова падняцца па службовай лесвіцы і дасягнуць жаданага. Вас будуць песціць увагай вышэйстаячыя начальнікі.


**Скарпіён.** Настальгія можа прывесці да спробаў схаваць свой боль у алкаголі. Будзьце аптымістам. У небяспечныя перыяды можа прыйсці нечаканая дапамога і падтрымка.


**Стралец.** Спакойна, без эмоцый патлумачце сваім дамашнім, што вам неабходна трохі вольнага часу для сябе асабіста.


**Казярог.** Магчыма знаёмства з цікавымі людзьмі, можна сустрэць сваю другую палавіну. Замужжа і жанатыя акунуцца ў свет кахання і рамантыкі.


**Вадалей.** Вы можаце заключыць прэстыжны шлюб, дзякуючы якому вы зможаце раз'язджаць па ўсім свеце і расшыраць свой кругагляд.


**Рыбы.** Шчасце побач. Трэба толькі зноў займацца сваім уласным жыццём. Галоўнае, ідзіце наперад, не аглядвайцеся. Толькі так можна дасягнуць поспеху.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

9 771991 715006

**Камент-эксперт**

erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

**27 красавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +17 | | +14 / +17 | | +8 / +9 | | +4 / +15 | |
| | 737 | ↗ 6 | 734 | ↙ 5 | 750 | ↓ 5 | 747 | ↑ 3 |
| Вільня | +3 / +17 | | +12 / +10 | | +6 / +12 | | +2 / +16 | |
| | 745 | ↗ 5 | 744 | ↙ 3 | 750 | ↓ 7 | 756 | ↑ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.41
Захад 20.38
Даўжыня дня 14.57

Усход 23.05
Захад 6.32
Квадра 3

Віцебск: +6, +10, 740, ↓ 1
Гродна: +9, +7, 742, ↙ 6
Мінск: +14, +17, 734, ↙ 5
Магілёў: +12, +11, 740, ← 3
Брэст: +12, +20, 740, ← 4
Гомель: +13, +23, 743, ↗ 6

## ПРЫКМЕТЫ

- З бярозы цячэ многа соку – да лета мокрага.
- Удзень горача, ноччу холадна – да добрага надвор'я.
- "Засім – апякун пчаляроў" На Засіма (30 красавіка) расстаўлялі вуллі.
- Май не халодны, дык галодны.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Творчасць Язэпа Драздовіча – праява нацыянальнага рэалізму. Матэрыялы з навукова-практычнай канферэнцыі чытайце праз тыдзень.**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Знаёмая спрабавала прывучыць сына спаць у дзіцячым пакоі. Калі хлопчык заснуў з бацькамі, яна яго аднесла ў пакой. Хвілін праз 15 ён вяртаецца да бацькоў у ложак. Маці яго зноў аднесла ў дзіцячы пакой. Ён зноў вярнуўся. Яна яго ў трэці раз нясе на "месца", а ён скрозь сон:

– Ну, і доўга мы так бегаць будзем?

***

Сядзяць цешча і зяць. За акном – дождж, навальніца. Цешча кажа:

– Ідзі ў агарод і агуркі палівай!

– Мама, на вуліцы ж і так дождж ідзе, – кажа зяць.

Цешча сурова адказвае:

– Дык накінь плашч і ідзі сабе!





## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ



Фота Ігара МАРОЗА.

**Экстрэмальная забава не страчвае актуальнасці ва ўсе часы.**





## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# З чым у вас асацыюецца Чарнобыль?



**Аксана Ігнатовіч, памочніца выхавальніцы ў дзіцячым садку:**

– З радыяцыяй, хваробамі ды ўвогуле ні з чым добрым.



**Рыта Папова, выхавальніца:**

– З чымсьці чорным, жудасным. Выклікае боязь за заўтрашні дзень, бо гэта можа паўтарыцца ў любы час.



**Любоў Паберская, пенсіянерка:**

– З хваробамі, у першую чаргу з касцянымі захворваннямі. У мяне ў самой і пазваночнік баліць, і ногі. Мабыць, ва ўсіх хваробы ад гэтага Чарнобыля.



**Святлана Смірнова, пенсіянерка:**

– З горам. З недаглядам, з халатнасцю, бо не папярэдзілі людзей і не выратавалі іх. Карацей, ні з чым прыемным.



**Святлана Канапелька, спецыяліст па рэкламе:**

– З трывогай, звязанай з будаўніцтвам Астравецкай АЭС.



**Аляксандр Іваноў, электрык:**

– З заражэннем, радыяцыяй, катастрофай. Ну і хваробамі, і смерцю, канешне. Тут усё разам.



**Павел Пяскоў, мантажнік:**

– Гэта памяць для ўсёй Беларусі, аб гэтым нельга забываць, асабліва моладзі. Гэта навука і, канешне, дрэнная памяць, лепш бы гэтага не было і ніхто пра гэта не ведаў.

**Апытанне падрыхтавала Настасся РОЎДА.**

Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6250 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 17 (939) 26.04.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 351. Падпісана ў друк у 10.00 25.04.2013.

**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а**.
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.